№ 1(18)/98/99



# Беларускія Ведамасьці

ВЫДАЕЦЦА Ў СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ЗЬ БЕЛАРУСКІМ ВЫДАВЕЦКІМ ТАВАРЫСТВАМ У АМЭРЫЦЫ
ВАРШАВА, снежань1998 – студзень 1999 г.

## АБАРОНІМ БЕЛАРУСЬ
### (Ліст да грамадзянаў Беларусі)

25-га сьнежня гэтага года прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Ельцын падпісалі ў Маскве дэклярацыю аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй і шэраг дамоваў. Згодна гэтых дакумантаў, Беларусь плянуюць далучыць да Расеі і ўтварыць адзіную дзяржаву з адзіным бюджэтам, адной мытнай службай, агульным правам на набыцьцё і распараджэньне маёмасьцю, з агульнымі грашыма і грамадзянствам.

За тыдзень да Сьвята Божага Нараджэньня Лукашэнка злавесна паабяцаў беларусам, што зробіць ім „сюрпрыз". І вось „сюрпрыз" аб'яўлены. Лукашэнка мяркуе правесьці чарговы незаконны рэфэрэндум аб ліквідацыі незалежнасьці і суверэнітэту беларускай дзяржавы.

З пункту гледжаньня права, авантурны учынак Лукашэнкі ёсьць злачынства перад законам, якое кваліфікуецца як здрада дзяржаве і народу Беларусі.

Згодна Канстытуцыйнага закона аб рэфэрэндуме (1991 год) беларускае права не дазваляе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія закранаюць асновы існаваньня беларускай дзяржавы, суверэнітэту і тэрыторыі. Да таго ж ніякі рэфэрэндум ня можа праводзіцца ва ўмовах дыктатуры, без дэмакратычных свабодаў, пры адсутнасьці допуску апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, у абставінах парушэньня чалавечых правоў, наяўнасьці палітычных вязьняў у турмах і бязьдзейнасьці заканадаўства, якое падменена воляй дыктатара.



*Рэжым*

З пункту гледжаньня палітычнае матывацыі — гэта ёсьць змова двух збанкрутаваных палітыкаў, дзе Ельцын хоча засьведчыць, што ён яшчэ ўплывае на палітыку Расеі, а Лукашэнка — удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі і трапіць у Крэмль цаной прадажы Беларусі.

Бессаромная дэклярацыя 25-га сьнежня зьяўляецца трэцяй спробай анэксаваць Беларусь (першыя дзьве былі ў 1996, 1997 гг.). Гэтая дзіўная, на першы погляд, палітыка абумоўленая ўнутранай акупацыяй Беларусі сіламі савецкага КГБ, якая пачалася ў 1994-м годзе пасьля выбраньня на прэзыдэнта Беларусі агента КГБ Аляксандра Лукашэнкі. Улада ў Беларусі была захоплена расейскімі спэцслужбамі і агентурай — знутры. Спачатку (1994г.) легальным шляхам, выкарыстаўшы выбары, а потым (1996г.) — шляхам антыканстытуцыйнага перавароту. Акупаваная Беларусь стала прыстанішчам імпэрскага рэваншу па ўтварэньні новага „славянскага" СССР (Беларусь, Украіна, Расея) і прадметам гандлю Лукашэнкі з Масквой за ўладу ў Крамлі.

Менавіта акупацыйным характарам рэжыму тлумачыцца антыбеларуская палітыка Лукашэнкі на Беларусі: закрыцьцё беларускіх школаў, разбурэньне беларускай навукі, асьветы, культуры, разбурэньне дзяржаўных інстытутаў улады, судоў, выгнаньне прафэсійных нацыянальных кадраў са сфэры іхных інтарэсаў, ліквідацыя сярэдняга і малога бізнэсу, этнацыд, штучнае прывязваньне беларускай эканомікі і гандлю да хворай крымінальнай і канаючай эканомікі Расеі, якая цягне Беларусь на сьмяротнае дно. Але галоўнае — фантастычнае ашуканства і абрабаваньне беларускага грамадства.

Што б мне хацелася сказаць грамадзянам Беларусі у сувязі са становішчам.

Мы павінны змагацца за свае правы, уласнасьць і культуру, за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Мы павінны ліквідаваць дыктатуру, усталяваць законнасьць і права ў сваёй краіне.

***Патрабуйце адстаўкі Лукашэнкі.*** Далучайцеся да акцыі *Народнага Фронта* аб адстаўцы прэзыдэнта, аддавайце свае галасы і стаўце подпісы за адстаўку, за прыцягненьне Лукашэнкі да адказнасьці за здраду. Патрабуйце суду над здраднікам.

***Пратэстуйце.*** Удзельнічайце ва ўсіх пратэстацыйных акцыях *Народнага Фронту* супраць анэксіі, інтэграцыі і ўсялякіх псэўда-рэфэрэндумаў. Ідзеце на мітынгі, дэманстрацыі, шэсьці, станавецеся ў пікеты, зьбірайце сродкі на барацьбу. Будзьма салідарныя з усімі, хто змагаецца за свабоду і незалежнасьць Беларусі.

***Рыхтуйце ўсеагульны нацыянальны страйк.*** Стварайце паўсюдна страйкавыя камітэты. Вясной масавы ўсебеларускі страйк павінен адбыцца і ператварыцца ў бесперапынную акцыю, якая, сумесна з палітычнымі дзеяньнямі, зьмяце прамаскоўскі акупацыйны рэжым.

***Ніводная беларуская партыя не павінна ўдзельнічаць у лукашэнкаўскіх выбарах па яго нелегальных законах.*** Удзел у акупацыйных выбарах па нелегальных законах дыктатуры будзе азначаць прызнаньне і легалізацыю гэтых законаў і гэтага рэжыму. Ва ўмовах дыктатуры выбары і рэфэрэндумы выйграе толькі дыктатар. Удзел у акупацыйных выбарах будзе фактычным супрацоўніцтвам з рэжымам і здрадай Беларусі.

Асобы, якія заклікаюць да ўдзелу ў лукашэнкаўскіх выбарах (ды яшчэ праз пакліканьне парляманцкай асамблеі дэпутатаў былога Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня), дзейнічаюць як людзі, што не задумваюцца пра вынікі сваіх прапановаў. Бо калі б сабралася такая „асамблея", дзе большасьць складаюць здраднікі і калябаранты, то яна б прыняла зусім ня тыя рашэньні, пра якія кажуць пражэкцёры, а тыя, што выгадныя рэжыму, якому служыць бальшыня былых дэпутатаў.

Ніякага даверу у цэлым неіснуючаму Вярхоўнаму Савету 13-га скліканьня і яго дэмагогам ня можа быць. Хто здрадзіў Беларусі тройчы, той здрадзіць і далей. Абсурд — зьвязваць нейкія палітычныя надзеі зь бясслаўным фантомам.

***Уступайце ў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі.*** Гэта ёсьць легальная альтэрнатыва бяспраўю *і* акупацыйнаму рэжыму. Мы створым камітэты і органы самакіраваньня *грамадзянаў БНР.* Сумесна са страйкамамі, прафсаюзамі, партыямі і грамадзкімі арганізацыямі, мы склічам прадстаўнічую усебеларускую асамблею грамадзянаў БНР, прымем на ёй дэмакратычны закон аб выбарах (праект якога ўжо даўно напісаны), утворым Цэнтральную выбарчую камісію і правядзем выбары ў парлямант на прапарцыйнай аснове. Мы створым двоеўладдзе — і дыктатура ссохне, як восеньскі ліст. Лукашэнка застанецца адзін са сваімі незаконнымі паўнамоцтвамі, *і* ніхто ня будзе за яго змагацца, нават яго ўрад і яго „вертыкаль". Ён надакучыў усім. У нас зьявіцца салідарная сіла, і мы патрапім разумна яе скарыстаць.

У будучыні мы ліквідуем прэзыдэнцкую сістэму на Беларусі, зьнішчым тым самым мэханізм дыктатуры і магчымасьць замежнага уплыву на беларускую ўладу. У цяперашніх абставінах прэзыдэнцтва нам не падыходзіць. Мы даводзілі грамадзтву гэтую, цяпер ужо відавочную, праўду, пачынаючы з 1991 году. Сытуацыя такая, што любыя прэзыдэнцкія выбары дадуць „савецкі вынік" і адпаведныя дачыненьні з Масквой. Гэта значыць — залежнасьць ад палітыкі імпэрскай і хворай краіны.

Улічым таксама, што савецкі КГБ, як любяць казаць яго адэпты, *„ніколі не кладзе яйкі ў адзін кошык".* Захапіўшы ўладу, функцыянэры імкнуцца „захапіць" і апазыцыю, узначаліць яе, альбо стварыць свае „апазыцыйныя" цэнтры. Невыпадкова, што група асобаў, якая разам з Лукашэнкам і КГБ рыхтавала захоп прэзыдэнцкай улады, праз нейкі час раптам рассварылася, падзялілася, пакінула Лукашэнку і стала ў крыклівую апазыцыю да прэзыдэнта.

Цяпер гэтая публіка першая кінулася ў кампанію за прэзыдэнцкія выбары. Хочуць стварыць бяспройгрышную сытуацыю, каб уся нацыя з розных бакоў галасавала за адну масьць, якая зноў завалодала б ўладай калі не праз Лукашэнку, дык праз „апазыцыю". (Бо і тут, і там — „свае людзі").

Стары трук. Разьлічаны хтба на тое, што беларускае грамадзтва згодзіцца, каб яго дурылі.

Некалі я пісаў (у „Навінах" за сакавік 1998г.) пра паплечніка Лукашэнкі і вялікага „апазыцыянера" М.Чыгіра і пра магчымую ролю пэўных сілаў у сувязі з гэтым прозьвішчам. Цяпер, як і трэба было чакаць, спадар Чыгір усплыў проста з Масквы і заявіў, што хоча быць прэзыдэнтам... Зрэшты, глядзіце газэту „Навіны" ("Свабода") за сакавік 98-га.

Авантурніцкая дэклярацыя Ельцына-Лукашэнкі сваім зьместам імкнецца выкрасьліць праблему выбараў у Беларусі і паставіць на парадак дня ліквідацыю беларускай дзяржавы і самазьнішчэньне нацыі. Але тым ня менш, як бачым, Масква адначасна гуляе і з Чыгіром. Нам добра вядомая такая візантыйска-кагэбісцкая палітыка варыянтаў.

Засталася яшчэ адна праблема, якую мы ня можам прамінуць у нашай барацьбе за Беларусь і ў змаганьні з авантурыстамі. Гэта пытаньне дачыненьняў Захаду і Расеі. Ня буду доўга тлумачыць тут заходнюю палітыку і заходнія ілюзіі адносна Расеі, скажу адразу сутнасьць пазыцыі.

*Мы, усе беларусы, усе беларускія арганізацыі павінны патрабаваць ад Захаду салідарнай палітыкі з нашай справядлівай барацьбой за свабоду, незалежнасьць і правы чалавека. Зьмест яе ў тым, каб крэдыты, пазыкі і дапамогі, якія Захад выдзяляе і будзе выдзяляць Расеі, даваліся толькі пры ўмове адмаўленьня яе ад любых спробаў зьнішчыць суверэнітэт Беларусі і далучыць яе да Расеі.*

Мы, беларусы, не павінны недаацэньваць авантурніцкіх захадаў Лукашэнкі-Ельцына, бо мы ўжо даўно спажываем практычныя наступствы вар'яцкіх антыбеларускіх плянаў.

Расея стаіць на парозе камуна-фашыстоўскай дыктатуры. Выхад Лукашэнкі на рускае палітычнае поле ў выбарчую барацьбу за Крэмль можа зрабіць магчымасьць чырвона-карычневай кагэбісцкай дыктатуры рэальнасьцю. І дарэмна хіхікаюць сабе ў рукаво прасмаленыя маскоўскія палітыкі. Яны прайграюць з трэскам, і не дапамогуць ім ніякія мільёны. Яны не разумеюць, што за сілы стаяць за сьпіной гэтай камічнай, псыхічна зацыкленай і апантанай фігуры Лукашэнкі. Яны не разумеюць іхных магчымасьцяў, не вывучаюць беларускі вопыт, не ўяўляюць вынікаў.

Для беларусаў гэта будзе абазначаць страту дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальную катастрофу, пасьля якой мы доўга ня зможам падняцца.

Цяпер Беларусь перажывае надзвычайныя цяжкасьці. Лукашэнка сілком прывязаў разбураную ім беларускую эканоміку і гандль да хворай расейскай сістэмы. Таму Расейскі крызіс ударыў і па беларусах, стаў штуршком да абвалу ўсяго так званага „рынкавага сацыялізму". Беларусь і так зацягнулі ў рускае балота, а цяпер рашылі ў ім утапіць.

З сумнай рэчаіснасьці некалькіх гадоў дыктатуры вынікае толькі адзін парадаксальны ўмоўна-станоўчы момант. На ўласным вопыце шмат якія беларусы пачынаюць збаўляцца ад „саўковай” хваробы, ад ілюзіяў, ад узьдзеяньня масавага ашуканства.

У Новым 1999 годзе, які, пэўна, будзе для беларусаў вельмі значным, зычу ўсім сваім суайчыньнікам добрай волі, здароўя і моцы дзеля перамогі над сіламі імпэрыі зла. Час зрушыўся. ***Ініцыятыва павінна быць у нашых руках. Мы абаронім нашу Беларусь — наш Дом, нашу незалежнасьць і нашу будучыню, чаго б гэта нам ні каштавала. Бо не бывае каштоўнасьці большай, чым Боская Воля — Свабода і Незалежнасьць Айчыны.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*28 сьнежня 1998 года*

## ЗАЯВА кіраўніцтва БНФ „Адраджэньне”

25 сьнежня 1998 г. Б. Ельцын і А. Лукашэнка падпісалі ў Маскве шэраг дакумантаў, дзе засьведчана імкненьне стварыць у другой палове 1999 г. нейкую „саюзную дзяржаву” ў складзе Расеі і Беларусі.

Прычынаю ліхаманкавай „інтэграцыйнай” актыўнасьці прэзыдэнтаў Расеі і Беларусі стаў эканамічны крах і палітычнае банкруцтва рэжымаў, якія яны ўзначальваюць. Прыняты ў першым чытаньні бюджэт Расейскай Фэдэрацыі — тыповы бюджэт краіны „трэцяга сьвету”, які ставіць гэтую імпэрыю на мяжу канчатковага развалу. Інкарпарацыя Беларусі — гэта спроба імпэрскага рэжыму самазахавацца.

А. Лукашэнка фактычна зьнішчыў беларускую Канстытуцыю, законнасьць, нацыянальную валюту, вынішчае беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. У першай палове 1999 г. у Беларусі, паводле легітымнай Канстытуцыі, павінны адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Лукашэнка, баючыся свабодных дэмакратычных выбараў, дзеля захаваньня ўлады і магчымасьці змагацца за лідэрства ў Расеі, ідзе на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці.

*У гэтых варунках прэзыдэнты дзьвюх краін падпісваюць дакуманты, якія пярэчаць ня толькі нормам міжнароднага права, але і дзейсным Канстытуцыям Расейскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусь.*

Б. Ельцыну добра вядома, што ў Беларусі адсутнічаюць усялякія падставы для свабоднага волевыяўленьня народу, каб законным чынам ажыцьцявіць зьмены ў Канстытуцыі. У Беларусі дзясяткі палітычных зьняволеных. Прэзыдэнцкія структуры зманапалізавалі ўсе электронныя СМІ. Усялякая апазыцыя рэжыму жорстка перасьледуецца. Між тым, як паказваюць сацыялягічныя зьвесткі, ня менш як тры чвэрці беларускага насельніцтва не падтрымліваюць ідэю аб'яднаньня Расеі і Беларусі ў адну дзяржаву. Відавочны разьлік на фальсыфікацыю народнага волевыяўленьня.

***Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” ацэньвае гэтыя крокі Лукашэнкі як дзяржаўную здраду.*** Мы зробім усё, каб адстаяць аплочаную крывёю продкаў незалежную беларускую дзяржаўнасьць. Здраднікі і злачынцы будуць непазьбежна пакараныя ў адпаведнасьці з законам.

***Заклікаем усе дэмакратычныя незалежніцкія сілы згуртавацца на падмурку абароны незалежнасьці Беларусі.***

*25 сьнежня 1998 г., Менск*

## ТЭРМІНОВЫ АНШЛЮС І ЭКАНОМІКА

25 сакавіка 1998 г. два не зусім здаровыя прэзыдэнты падпісалі „дэклярацыю” аб саюзе Беларусі і Расеі. Цікава, што гэты несуразны дакумант стварылі людзі, якія ашукалі надзеі і спадзяваньні сваіх выбаршчыкаў і цяпер шукаюць шляхоў, як пазьбегнуць адказнасьці.

А. Лукашэнка за амаль чатыры гады свайго кіраваньня здолеў поўнасьцю разбурыць эканоміку Беларусі. Прамысловасьць, нягледзячы на раздзьмутую (а фактычна сфальшаваную) справаздачнасьць, практычна паралізаваная. *На пачатак сьнежня мінулага года на заводзкіх складах скапілася прадукцыі амаль на 350 трыльёнаў рублёў, што ў паўтара разы перавышае паступленьне сродкаў у бюджэт за 11 месяцаў. Кожнае шостае прадпрыемства стратнае. Пры гэтым 62,4 адсоткі прыпадае на дзяржаўны сэктар.*

Сума стратаў перавысіла *6 трыльёнаў рублёў*. Крэдытарская запазычанасьць перавысіла *265 трыльёнаў рублёў*, у тым ліку пратэрмінаваная — *82,7 трыльёнаў рублёў*. У наяўнасьці ёсьць сродкі для пагашэньня толькі адной трэці пратэрмінаванай запазычанасьці.

*Інфляцыя* выйшла з-пад кантролю. Замест абяцаных 29 адсоткаў гадавога росту, яна дасягнула, паводле розных ацэнак, *ад 400 да 700 адсоткаў*. Краіна напоўнена „пустымі” грашовымі знакамі, якіх выдрукавалі больш, чым на 21 трыльён рублёў.

Рэзка скарацілася вытворчасьць прадуктаў харчаваньня. Калі **ў 1990 годзе** сельская гаспадарка Беларусі выпрадукавала ў разьліку на душу насельніцтва *720 літраў малака* (лепшы паказчык у сьвеце), мяса — *116 кілаграмаў* (трэці вынік у сьвеце), *зерня — 850 кілаграмаў*, *бульбы* больш за *1000 кілаграмаў* (першае месца ў сьвеце) і г.д., то **ў 1998 годзе** грамадзкі сэктар выдаў толькі *217 літраў малака*, *28 кілаграмаў мяса*, прыкладна *400 кілаграмаў зерня*, менш за *200 кілаграмаў бульбы*. ***Гэта ў 2-3 разы менш за рэкамэндаваныя медыцынай нормы харчаваньня.*** Надзвычай павялічыліся цэны. За пэрыяд кіраўніцтва Лукашэнкі *кошт ялавічыны і сьвініны* павялічыўся *ў 92-96 разоў*, *птушкі — ў 114 разоў*, *варанай кілбасы — у 194 разы*, *хлеба — у 47 разоў*, *малака — ў 54 разы*, *масла — у 57 разоў*, *бульбы — у 37 разоў і г.д.*

Толькі за 10 месяцаў мінулага году *кошт спажывецкага набору з 25 асноўных прадуктаў харчаваньня павялічыўся ў 2,6 разоў*. Прычым нормы па асобных прадуктах можна параўнаць хіба што з нормамі блякаднага Ленінграда ў Расеі за часы 2-й Сусьветнай вайны. Напрыклад, *норма мукі складае 540 грамаў у месяц, альбо 18 грамаў на дзень; макаронных вырабаў — адпаведна: 580 і 19 грамаў; ялавічыны — і кілаграм і 35 грамаў; сьвініны — 1,58 кілаграма і 52 грамы; сьмятаны — 130 грамаў і 4 грамы; яек — 12 штук у месяц і г.д.*

Рэзка панізілася заработная аплата. У лістападзе 1998 году, ў адпаведнасьці з курсам Нацыянальнага банку, кожны, хто працуе, атрымліваў у месяц у сярэднім каля *30 даляраў* ЗША. Сярэдняя пэнсія скарацілася да *10 даляраў* у месяц. Пэрспэктываў паляпшэньня становішча няма. Харчовая праблема будзе пагаршацца. У сувязі з няспынным скарачэньнем пагалоўя жывёлы і недаборам кармоў (15 адсоткаў да патрэбы) у гандлёвую сетку на зіму-вясну будзе менш дадзена малака і мяса, чым у мінулым годзе. Практычна ўжо не засталося харчовай пшаніцы. З неабходных *850 тысячаў тон жыта закуплена толькі 676 тысячаў тон*, альбо менш за 80 адсоткаў. Зерне, якога не

хапае, можна б было закупіць. Але гэта наўрад ці будзе зроблена па дзьвух прычынах.

*Па-першае,* у Нацыянальнага банка і ўраду няма валюты, а зьнешні гандль стратны. За 10 месяцаў 1998 года імпарт пераважыў экспарт на 1,3 мільярдаў даляраў ЗША.

*Па-другое,* сварлівы характар прэзыдэнта і прававое „бязьмежжа", што пануе ў краіне, напалохалі традыцыйных прадаўцоў зерня (зь якімі беларускія прадпрыемствы не разьлічыліся за завоз 1997 года). Пры гэтым А. Лукашэнка сваім распараджэньнем канфіскаваў уласнасьць некаторых замежных фірмаў. Хто ж павязе ў Беларусь сваю прадукцыю пры такіх умовах?

Вось што, відаць, прысьпешвае Лукашэнку хутчэй аб'яднацца з Расеяй. Там ужо за прэзыдэнцкія выбары пачынаюць змагацца, а тут — справы дрэнныя. Можна і там не пасьпець, і тут „загрымець".

***Іван НІКІТЧАНКА***
***прафэсар, член-карэспандэнт***
***Акадэміі Навук Беларусі, акадэмік МАТТ***

# ДА ПАРЛЯМАНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ КРАІНАЎ ЭЎРОПЫ І ЗША

## Зварот кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"

Паважаныя спадарыні і спадары. Зьвяртаемся да вас са спадзяваньнем на разуменьне і дапамогу ў нашым змаганьні за дэмакратыю, свабоду і незалежнасьць Беларусі.

25-га сьнежня 1998 года прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Ельцын без папярэдняга інфармаваньня грамадзкасьці сваіх краінаў падпісалі ў Маскве дэкларацыю аб аб'яднаньні Беларусі і Расеі ў адзіную дзяржаву. Плянуецца чарговы незаконны рэфэрэндум аб ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

З пункту гледжаньня права, прапанова Лукашэнкі зьяўляецца незаконнай, а ўчынак авантурным.

Згодна Канстытуцыйнага закону аб рэфэрэндуме (1991 год), беларускае права не дазваляе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія закранаюць асновы існаваньня беларускай дзяржавы, суверэнітэту і тэрыторыі.

Акрамя таго, ніякі рэфэрэндум ня можа праводзіцца ва ўмовах дыктатуры, адсутнасьці доступу апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, у абставінах парушэньня правоў чалавека і наяўнасьці палітычных вязьняў у турмах, у краіне, дзе заканадаўства падменена воляй дыктатара.

З пункту гледжаньня палітычнае матывацыі — гэта ёсьць змова двух збанкрутаваных палітыкаў, дзе Ельцын хоча засьведчыць, што ён па-ранейшаму ўплывае на палітыку Расеі, а Лукашэнка — удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі і трапіць у Крэмль цаной прадажы Беларусі.

Бессаромная дэкларацыя 25-га сьнежня зьяўляецца трэцяй спробай анэксаваць Беларусь (першыя дзьве былі ў 1996, 1997 гадах). Гэтая дзіўная, на першы погляд, палітыка абумоўленая ўнутранай акупацыяй Беларусі сіламі савецкага КГБ, якая пачалася ў 1994 годзе пасьля выбраньня на прэзыдэнта Беларусі агента КГБ Аляксандра Лукашэнкі.

Беларускі Народны Фронт як галоўная дэмакратычная вызвольная сіла ў краіне ўжо з 25-га сьнежня распачаў рух і акцыі пратэсту супраць спробаў ліквідаваць незалежнасьць Беларусі. Пад сьцягам супраціўленьня авантурніцкай палітыцы анэксіі і дыктатарскіх рэфэрэндумаў, мы злучым усе апазыцыйныя дэмакратычныя і здаровыя сілы беларускага грамадзтва.

Мы бачым вялікую небясьпеку для ўсёй Эўропы у спробах Лукашэнкі цаной беларускай незалежнасьці прарвацца да прэзыдэнцкай улады ў Расеі. Расея стаіць на парозе камунафашысцкай дыктатуры. Выхад Лукашэнкі на рускае палітычнае поле і ўключэньне яго ў палітычную барацьбу за Крэмль можа зрабіць магчымасьць чырвона-карычневай дыктатуры ў Расеі рэальнасьцю. Для беларусаў гэта будзе абазначаць страту незалежнасьці і нацыянальную катастрофу. Для Эўропы — парушэньне існуючага парадку рэчаў, актывізацыю камуністычных сілаў, рэанімацыю геапалітычных канфліктаў, тэрытарыяльных праблемаў, атамнага шантажу і ядзерных аргумантаў.

Мы спадзяемся на дэмакратычную салідарнасьць з боку ўрадаў, парлямантаў і арганізацыяў заходніх краінаў, на рэальную падтрымку нашага змаганьня за свабоду і незалежнасьць Беларусі, дэмакратыю і правы чалавека.

***Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" просіць урады, парляманты і арганізацыі заходніх краінаў Францыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Італіі, Гішпаніі, Партугаліі, Бэльгіі, Галяндыі, Аўстрыі, Швэцыі, Нарвэгіі, Фінляндыі, Грэцыі, Ірляндыі, Даніі, Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыны, Канады і ЗША:***

*— выступіць з палітычнымі ацэнкамі чарговай ініцыятывы Лукашэнкі-Ельцына аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй;*

*— падтрымаць апазыцыйнае змаганьне ўсяго беларускага вызвольнага руху за дэмакратыю, незалежнасьць і свабоду Беларусі;*

*— крэдыты, пазыкі і дапамогі, якія будуць прызначацца Расеі, выдзяляць толькі пры ўмове адмаўленьня яе ад любых спробаў зьнішчыць суверэнітэт Беларусі і далучыць беларускую тэрыторыю да Расеі;*

*— ініцыяваць разгляд пытаньня аб пагрозе незалежнасьці Беларусі і парушэньні правоў чалавека рэжымам Лукашэнкі ў Радзе Эўропы і Арганізацыі Аб'едналых Нацыяў. Прадугледзець пры гэтым слуханьні прадстаўнікоў беларускай апазыцыі і ўсяго дэмакратычнага вызвольнага руху Беларусі.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*28 сьнежня 1998г., Варшава — Менск*

# ХРАНАЛЁГІЯ ПАРУШЭНЬНЯЎ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА НА БЕЛАРУСІ (1998)

*(Менскі Цэнтр у абарону правоў чалавека „Вясна-96")*

### *СЬНЕЖАНЬ*

*1 сьнежня* на гомельскім заводзе *„Электраапаратура"* прайшоў стыхійны страйк рабочых інструмэнтальнага цэху. Адказнасьць за яе правядзеньне ўзяў на сябе старшыня першаснай арганізацыі *Свабоднага прафсаюзу Анатоль Паплаўны.* Рабочыя патрабавалі павышэньня заробкаў.

*2 сьнежня* заплянаваная на гэты дзень акцыя пратэсту беларускіх прафсаюзаў перанесеная на 27 студзеня 1999 г. На прэс-канфэрэнцыі арганізатары акцыі (кіраўнікі пяці найбуйнейшых галіновых прафсаюзаў) назвалі прычыны

пераносу акцыі: дваццаціградусныя маразы і згода ўраду пайсьці на дыялёг з прафсаюзамі.

*2 сьнежня* назіральніка *„Вясны-96"* ***Вадзіма Канапацкага*** і сакратара *БНФ „Адраджэньне"* ***Вячаслава Сіўчыка***, асуджаных за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада, вызвалілі са спэцразьмеркавальніка на вул.Акрэсьціна. Сябры па партыі сустракалі палітычных вязьняў з духавым аркестрам.

*2 сьнежня* каля спэцразьмеркавальніка на вул. Акрэсьціна супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы сябра *Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ)* фотакарэспандэнт ***Уладзімер Сапагоў***. Ён плянаваў зрабіць некалькі фотаздымкаў В. Канапацкага і В. Сіўчыка, якіх павінны былі ў гэты дзень вызваліць. Супрацоўнікі міліцыі патлумачылі сваё затрыманьне тым, што „сёньня была скрадзеная кінакамера" і таму трэба праверыць апаратуру У. Сапагова. Не зьвяртаючы ўвагі на словы У.Сапагова, што ў яго „не кінакамера, а фотаапарат", супрацоўнікі адвезьлі яго на службовай машыне ў Маскоўскі РАУС. Адсюль фотакарэспандэнта выпусьцілі, ня склаўшы пратаколу.

*3 сьнежня* старшыня Гомельскай філіі Беларускага Гэльсінскага Камітэту ***Яўген Мурашка*** рашэньнем суда Цэнтральнага раёну Гомеля быў арыштаваны на 10 сутак. Сутнасьць справы заключаецца ў тым, што 7 лістапада *Яўген Мурашка*, аплаціўшы гандлёвае месца на Цэнтральным калгасным рынку, прадаваў плякат з надпісам *„Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзянаў". Я. Мурашку* інкрымінавалі правядзеньне несанкцыянаванага пікету.

***У ноч з 4 на 5 сьнежня невядомыя патрыёты ўпрыгожылі Слуцк бел-чырвона-белымі сьцягамі. Нацыянальныя сьцягі з чорнай акаёмкай зьявіліся над пракуратурай, народным судом, райвыканкамам і ў іншых месцах. Яны нагадалі жыхарам гораду аб Слуцкім збройным антыбальшавіцкім паўстаньні ў лістападзе-сьнежні 1920 г.***

*4 сьнежня* Менгарвыканкам прыняў рашэньне аб забароне правядзеньня сходаў, мітынгаў, масавых шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньняў на Цэнтральным (Кастрычніцкім) пляцы Менска. Цяпер масавыя мерапрыемствы тут могуць праводзіцца толькі з дазволу Савету Міністраў і гарвыканкама.

*6 сьнежня* на Цэнтральным пляцы Менска адбыўся мітынг, прысьвечаны 50-м угодкам Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Заяўляльнікі акцыі — намесьнік старшыні *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"* Юры Хадыка і старшыня Праваабарончага цэнтру „Вясна-96" Алесь Бяляцкі. Акцыя адбылася, нягледзячы на перашкоды Менгарвыканкама і супрацоўнікаў міліцыі. Яшчэ на плошчы арганізатарам уручылі позвы ў Цэнтральны РАУС. Пасьля заканчэньня акцыі супрацоўнікі ГУУС пачалі масавыя затрыманьні. Машыны зьнешняга нагляду ўзялі ў аблогу *Сядзібу Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"*, людзей, якія выходзілі адтуль, хапалі тыпы ў цывільным і кідалі ў машыны. Загадчыца грамадзкай прыёмнай „Вясны-96" *Любоў Лунёва* і журналіст *Генадзь Барбарыч* накіраваліся ў Цэнтральны РАУС Менска , каб высьветліць колькасьць затрыманых, але былі выдаленыя за межы РАУСу з ужываньнем фізычнай сілы. Затрыманыя правялі ноч у спэцразьмеркавальніку.

*7 сьнежня ў Менску* адбыліся суды над затрыманымі ўдзельнікамі акцыі, прысьвечанай 50-м угодкам прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. У Цэнтральным судзе было разгледжана 15 адміністрацыйных справаў. Суддзя **Анатоль Барысёнак** вынес наступныя прысуды:

***Алег Шагулін*** — кіраўнік *суполкі БНФ „Адраджэньне"*— трое сутак арышту; аб'явіў галадоўку;

***Сяргей Шынкевіч*** — сябра *Каліноўскай Рады БНФ „Адраджэньне"* — штраф 7 мільёнаў рублёў;

***Віктар Рабушка*** — сябра *БНФ „Адраджэньне"*— трое сутак арышту;

***Міхаіл Новік*** — кіраўнік *Рады БНФ „Адраджэньне"* — адны суткі арышту;

***Леанарда Мухіна*** — кіраўнік *суполкі БНФ „Адраджэньне"* — папярэджаньне;

***Уладзімер Кішкурна*** — сябра *БНФ „Адраджэньне"* — трое сутак арышту;

***Эдуард Бокі*** — сябра *БНФ „Адраджэньне"* — папярэджаньне;

***Ядзьвіга Лабковіч*** — папярэджаньне;

***Вячаслаў Бірыла*** — штраф 7 мільёнаў рублёў;

***Хведар Жывалеўскі*** — папярэджаньне;

***Людзьміла Гразнова*** — *дэпутат Вярхоўнага Савета* — папярэджаньне;

***Алесь Станішэўскі*** — кіраўнік *Рады БНФ „Адраджэньне"* — штраф 7 мільёнаў рублёў;

***Алесь Бяляцкі*** — сакратар *Управы Сойму БНФ* — 10 сутак арышту;

***Юрась Хадыка*** — намесьнік старшыні *БНФ „Адраджэньне"* — 10 сутак арышту;

***Мікола Статкевіч*** — кіраўнік сацыял-дэмакратычнай партыі *„Народная Грамада"*— трое сутак арышту;

***Мікалай Каралёнак*** — папярэджаньне.

*7 сьнежня* ў судзе Партызанскага раёну Менска адбыўся судовы працэс над ***Валерыям Шчукіным*** за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада. Суддзя **Мікалай Трубнікаў** асудзіў яго на 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

*7 сьнежня ў г.Ганцавічы Берасьцейскай вобласьці* ***Мікола Занька*** хадзіў па гарадзкіх вуліцах (пад пільным кантролем супрацоўнікаў міліцыі) з плякатам *„50 гадоў Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека"*.

*7 сьнежня* **раённы выканаўчы камітэт г. Касьцюковічы** *Магілёўскай вобласьці* адмовіў актывісту *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"* ***Мікалаю Малахаву*** ў правядзеньні пікету, прысьвечанаму 50-м угодкам прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Улады прапанавалі правесьці пікет у бязьлюдным месцы, на стадыёне, альбо ў лесе.

*8 сьнежня на пляцы Якуба Коласа ў Менску* адбыўся мітынг пратэсту супраць зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню працоўных. На адным з плякатаў была цытата з выступленьня А. Лукашэнкі: „Рабочим платить надо так, чтобы глаза засветились". Пасьля заканчэньня мітынгу ***Лявон Садоўскі*** быў схоплены на трамвайным прыпынку асобамі ў цывільным. У машыне *Л. Садоўскі* чуў, як людзі, што схапілі яго, размаўлялі паміж сабой: *„Працуем па фатаграфіі №3"*. (Меўся на ўвазе фотаздымак, зроблены 6 сьнежня на Цэнтральным пляцы.) Л. Садоўскі правёў ноч у спэцразьмеркавальніку на вуліцы Акрэсьціна. 9 сьнежня адбыўся суд, які вынес Л. Садоўскаму папярэджаньне. У якасьці сьведкаў на судзе выступалі тыя ж асобы ў цывільным, якія яго затрымалі.

*9 сьнежня Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" на пляцы Якуба Коласа ў Менску* наладзіў пікет супраць плянаў аб'яднаньня Беларусі і Расеі. Людзі трымалі плякаты: *„Чым саюз цясьнейшы, тым народ бяднейшы"*.

*9 сьнежня ў Менску каля Палаца спорту* адбыўся мітынг, арганізаваны *Свабодным прафсаюзам Беларускім (СПБ)*.

Сабралася больш за дзьвесьце чалавек. Яны выступілі супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі, якую праводзіць урад. Таксама было вылучанае патрабаваньне аб павышэньні мінімальнага ўзроўню заробку. Пасьля заканчэньня акцыі СПБ асобамі ў цывільным быў затрыманы *непаўналетні 16-гадовы **Станіслаў Карашчанка*** — навучэнец Цэнтра Прафэсыйнай адукацыі Партызанскага раёну (вучыцца на сьлесара). Пры затрыманьні Станіслаў быў зьбіты людзьмі ў цывільным. У Цэнтральным РАУСе быў складзены пратакол. А ўвечары 9 сьнежня С. Карашчанка быў агледжаны хірургам і нэўрапатолягам прыёмнага пакою 5-га Менскага шпіталя, куды ён зьвярнуўся, якія паставілі яму дыягназ — *„пашкоджаньне мяккіх тканак галавы"*.

*9 сьнежня Кіраўскі раённы суд* прыняў рашэньне аб пераносе наступнага паседжаньня па справе экс-старшыні калгасу „Расьсьвет" ***Васіля Старавойтава*** ў сувязі са станам здароўя. У падсуднага абвастрыўся бранхіт. Гэта першы выпадак, калі праваахоўныя органы прызналі яго стан здароўя кепскім. Тэмпература ў камеры ўтрыманьня В. Старавойтава вельмі нізкая. Акрамя таго ў СІЗА у шпітальнай камеры няма неабходнага медыцынскага абсталяваньня. Між тым стан здароўя В. Старавойтава працягвае пагаршацца.

*10 сьнежня Праваабарончы Цэнтр „Вясна-96"* наладзіў пікет у цэнтры Менска (каля крамы ЦУМ), прысьвечаны 50-м угодкам абвяшчэньня Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека.

*10 сьнежня Беларускі Гэльсінскі Камітэт* арганізаваў пікет, прымеркаваны да 50-х угодкаў абвяшчэньня Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека.

*10 сьнежня* беларуская сацыял-дэмакратычная моладзь з арганізацыі *„Маладая Грамада"* правяла пікет у скверы на рагу вуліц Няміга і Гарадзкі Вал у Менску з нагоды 50-х угодкаў прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека.

*10 сьнежня* **адміністрацыя Ленінскага раёну Бабруйска** адмовіла Бабруйскай рэгіянальнай арганізацыі *Беларускага Гэльсінскага Камітэту* ў правядзеньні пікету каля помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў з нагоды 50-х угодкаў абвяшчэньня Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека.

*11 сьнежня* старшыня першаснай арганізацыі *Свабоднага прафсаюзу мэталістаў* Менскага трактарнага завода ***Вячаслаў Козел*** быў зьбіты ахоўнікамі пры спробе прайсьці ў будынак адміністрацыі МТЗ. У В. Козела была глыбока параненая рука. Ён зьбіраецца зьвярнуцца ў пракуратуру.

*11 сьнежня ў Гародні* адбыўся несанкцыянаваны пікет у гонар 50-х угодкаў абвяшчэньня Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Удзельнікі пікету трымалі плякаты, на якіх былі напісаны артыкулы дэклярацыі. У пікеце прымалі ўдзел прадстаўнікі *БНФ, БСДГ і Гарадзенскага рэгіянальнага Праваабарончага Цэнтру пры грамадзкім аб'яднаньні „Ратуша"*.

*15 сьнежня* актывісты *Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў (**БАМП**)* арганізавалі бясплатную падпіску на незалежную прэсу сярод рабрчых Менскага падшыпнікавага завода. Стаўшы пад канец зьмены каля прахадной, яны прапаноўвалі рабочым падпісацца на адно з незалежных выданьняў (на выбар). Рабочыя з энтузіязмам успрынялі гэтую ініцыятыву.

*15 сьнежня ў* Гародні памерла ў чарзе па яйкі пажылая жанчына. Гэта адбылося ў краме мясцовай птушкафермы „Птушка".

*17 сьнежня ў сядзібе БНФ* адбылася прэс-канфэрэнцыя, на якой нядаўнія арыштаваныя распавялі пра змаганьне за ўласныя правы ў камеры №19 разьмеркавальніка. У заяве А. Бяляцкага, Ю. Хадыкі і ўсіх, каму прыйшлося сядзець у камеры №19, адзначана: „Утрыманьне ў разьмеркавальніку нават горшае за СІЗА, бо зьняволеныя ня маюць права на прагулкі, вынікам чаго зьяўляецца разьвіцьцё ўсялякіх хваробаў, такіх, як сухоты, кароста, алергія, клаўстрафобія, галаўны боль, задышка, паслабленьне апорна-рухальнага апарату і розныя нэрвовыя і псыхічныя хваробы", што зьяўляецца парушэньнем права зьняволеных на ахову здароўя. У выніку пададзенай заявы зьняволеных гэтай камеры на наступны дзень вывелі на прагулку.

Арыштаваны *Валеры Шчукін* напісаў заяву на імя начальніка на правядзеньне пікету ў двары сьпецразьмеркаваллльніка *„супраць мышэй"*, якія апанавалі гэтую установу. На наступны дзень адміністрацыя выклікала санэпідэмстанцыю, супрацоўнікі якой патруцілі мышэй.

*18 сьнежня* на сэсіі лукашэнкаўскай „палаты прадстаўнікоў" прынятьі закон „Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў у Рэспубліцы Беларусь". Закон забараняе ўдзел у выбарах асобаў, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасьці. Гэтая „норма" была ўведзеная ў закон па прапанове прэзыдэнта Лукашэнкі, які хоча такім чынам адхіліць ад удзелу ў выбарах сваіх палітычных апанэнтаў. Вядома: амаль усе апазыцыйныя палітыкі прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасьці за ўдзел у акцыях пратэсту.

*У ноч з 19 на 20 сьнежня* на мытні ў сябра Праваабарончага Цэнтру „Вясна-96" ***Валянціна Стэфановіча***, які накіроўваўся ў польскі горад Тэрэспаль на канфэрэнцыю, прысьвечаную супрацоўніцтву маладзёвых арганізацыяў Беларусі, Польшчы і Украіны, была канфіскаваная праваабарончая літаратура: бюлетэнь *ПЦ „Права на волю"* (на беларускай і ангельскай мовах). Інспэктар мытнай службы, які знайшоў бюлетэні, закрычаў: „Арыштаваць!" На пытаньне В. Стэфановіча („Гэта што, кантрабанда?") ён адказаў: „Это хуже!"* Мытнікі забралі бюлетэні, сказаўшы, што іх „вывучаць" на прадмет утрыманьня матэрыялаў, якія „зьневажаюць гонар і годнасьць прэзыдэнта". На патрабаваньне В. Стэфановіча скласьці пратакол аб канфіскацыі мытнікі гэта зрабіць адмовіліся.

*19 сьнежня Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* наладзіў у Менску шэраг пікетаў, прысьвечаных адной праблеме — захаваньню правоў чалавека ў Беларусі.

*22 сьнежня* адбылося заключнае паседжаньне Вышэйшага гаспадарчага суда, у ходзе якога было вынесенае рашэньне па зыску газэты ***„Наша Ніва"***. Канфлікт вакол незалежнай газэты *„Наша Ніва"* узьнік у чэрвені 1998 г., калі Дзяржаўны камітэт па друку вынес газэце афіцыйнае папярэджаньне за карыстаньне *„тарашкевіцай" — клясычным беларускім правапісам, распрацаваным мовазнаўцам Браніславам Тарашкевічам, які выкарыстоўваўся ў Беларусі да забароны яго бальшавікамі ў 1933 г. і выкарыстоўваецца цяпер*. Рэдакцыя *„Нашай Нівы"* вырашыла аспрэчыць рашэньне Дзяржкамдруку ў Вышэйшым гаспадарчым судзе. Адбылося некалькі мовазнаўчых экспэртызаў, якія далі заключэньне, што выкарыстаньне дарэформеннага правапісу не зьяўляецца парушэньнем закону. *22 сьнежня* суд вынес рашэньне на карысьць рэдакцыі: *суддзя* **М. Пятухова** *прыпыніла дзеяньне папярэджаньня Дзяржкамдруку ў дачыненьні да „Нашай Нівы"*.

*22 сьнежня ў Менску* на факультэце Міжнародных

* *Гэта горш (рус.)*

адносінаў адбыўся круглы стол па аналізу заключных заўвагаў Камітэту па правах чалавека да чацьвёртага перыядычнага дакладу Беларусі пра ажыцьцяўленьне Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. У мерапрыемстве прымалі ўдзел прадстаўнікі ААН у Беларусі, прадстаўнікі афіцыйных уладаў (*МЗС, МУС, Генеральная пракуратура, Канстытуцыйны суд, Дзяржкамдрук* і г.д.) і беларускія праваабарончыя арганізацыі (*БАЖ, БГК, ПЦ „Вясна-96“*). Прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў зачыталі даклады, якія пацьвярджалі факты шматлікіх парушэньняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Але з боку афіцыйных уладаў не было падрыхтаваных дакладаў. Гэтым афіцыйныя ўлады засьведчылі тое, што ім не было чаго сказаць па заўвагах Камітэту па правах чалавека.

*22 сьнежня* скончыўся тэрмін 15-дзённага арышту журналіста ***Валерыя Шчукіна***, які быў асуджаны за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада. У 10 гадзінаў раніцы па яго прыйшлі ў камэру супрацоўнікі міліцыі, схапілі і гвалтам пацягнулі па падлозе на вуліцу, дзе кінулі ў сьнег. В. Шчукіна прывезьлі ў суд Цэнтральнага раёна Менска, каб судзіць за ўдзел у акцыі 6 сьнежня, якая была прысьвечаная 50-м угодкам з дня абвяшчэньня Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Падчас судовага паседжаньня міліцыянты ўварваліся ў кабінет да суддзі А. Барысёнка і кінулі Валерыя Шчукіна на падлогу.

*23 сьнежня* жонкі і маці беларускіх палітзьняволеных зьвярнуліся зь лістом да вядомага расейскага хакеіста **Паўла Бурэ**: ***„Нашыя дзеці і мужы сядзяць у турме толькі за тое, што не пабаяліся выступіць супраць А. Лукашэнкі... Тым часам вы публічна сустракаецеся зь беларускім прэзыдэнтам і гэтым самым аказваеце падтрымку грубаму, некампетэнтнаму кіраўніку, які давёў краіну да ганьбы, а нас — да гора і сьлёз,“*** — гаворыцца ў лісьце, які падпісалі ***маці Андрэя Клімава*** і ***ягоная жонка, маці Аляксея Шыдлоўскага, жонка Уладзімера Кудзінава.***

*23 сьнежня 16-гадовага* навучэнца Цэнтру прафэсійнай адукацыі Партызанскага раёну ***Станіслава Карашчанку*** выклікалі ў Камісію па справах непаўналетніх па месцы жыхарства. У камісіі С. Карашчанку сказалі, што ён ня мае права хадзіць на мітынгі, пакуль яму ня споўніцца 18 гадоў: „Ня ты гэтую ўладу выбіраў, не табе супраць яе выступаць“. С. Карашчанку вынесьлі папярэджаньне за ўдзел у акцыі 6 сьнежня (паводле арт.167 ч.1 КаАП).

*25 сьнежня* у Маскве прэзыдэнты Беларусі і Расеі падпісалі дэкларацыю аб стварэньні ў 1999г. нібыта супольнай саюзнай дзяржавы. ***Дэкларацыя адкрыта парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і зьяўляецца антызаконным пактам аб намерах акупацыі Беларусі.***

*27 і 28 сьнежня ў Гародні* **Гарвыканкам** адмовіў *Свабоднаму прафсаюзу* ў правядзеньні жалобнага мітынгу ў сувязі з *забойствам у Расеі шасьці гарадзенскіх прадпрымальнікаў*. За гэтай адмовай стаіць жаданьне ўладаў спусьціць на тармазах праблему бясьпекі, замаўчаць трагедыю, пакінуць без дапамогі сем'і забітых.

*31 сьнежня* **Выканаўчы камітэт г. Смаргоні** Гарадзенскай вобласьці вынес рашэньне, паводле якога было зьмененае месца правядзеньня пікету — замест пляцоўкі ў цэнтры гораду быў прапанаваны гарадзкі парк. У заяве аб правядзеньні заяўляльнік пікету прыватны юрыст ***Аляксандар Дзергачоў*** пісаў: „18 сьнежня 1998г. па першай праграме ГРТ дэманстравалася перадача „Падрабязнасьці“ з удзелам прэзыдэнта Беларусі. У гэтай перадачы прэзыдэнт выказаўся, што вядомыя беларускія палітыкі *Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч* абяцалі выселіць зь Беларусі людзей рускай нацыянальнасьці. Я зь іх вуснаў нічога падобнага ніколі ня чуў, а таму лічу, што выказваньне прэзыдэнта не адпавядае рэчаіснасьці, падрывае рэпутацыю руху і партыі БНФ, сябрам якой я зьяўляюся.“

***СТУДЗЕНЬ 1999 г.***

*6 студзеня* **раённы Выканаўчы камітэт г. Смаргоні** забараніў актывістам *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“* правядзеньне пікету з мэтай „выказаць пратэст супраць здрадніцкіх дзеяньняў прэзыдэнта Лукашэнкі ў адносінах да Беларусі.“ Пікет мусіў адбыцца 17 студзеня.

*10 студзеня Вярхоўны Савет 13-га скліканьня абвясьціў дату прэзыдэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца 16 мая 1999 г.* За гэтае рашэньне прагаласавалі 44 дэпутаты, якія сабраліся на сваё паседжаньне ў мінскім гатэлі „Турыст“. Пракуратура Беларусі ў сваю чаргу выступіла з заявай, у якой сказана, што дзейнасьць па арганізацыі „датэрміновых“ выбараў прэзыдэнта можа расцэньвацца не інакш, як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізаваць сытуацыю ў грамадстве., справакаваць масавыя беспарадкі.

*11 студзеня* ў Савецкім судзе Менска адбыўся судовы працэс па адміністрацыйнай справе ***Валерыя Шчукіна*** *— журналіста, дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня.* Судзілі В. Шчукіна за ўдзел у акцыі грамадзянскага непадпарадкаваньня, якая адбылася 25 сьнежня і была накіраваная супраць інкарпарацыі Беларусі ў Расею. На судзе Шчукін выступіў з прамовай, дзе абвінаваціў супрацоўнікаў міліцыі ў парушэньні 8 крымінальных і 6 адміністрацыйных артыкулаў. Нягледзячы на гэта, в.а. суддзі **А. Ганчарык** прысудзіў яму 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

***(Матэрыялы падрыхтаваў Алесь БЯЛЯЦКІ)***

# МІЛІЦЫЯ ЗЬБІЛА НЕПАЎНАЛЕТНЯГА БЕЛАРУСА СТАСЯ КАРАШЧАНКУ

*9-га сьнежня*, пасьля пікету, які ладзіў *Свабодны прафсаюз* каля Палаца спорту ў Менску, *да непаўналетняга 16-гадовага* ***Стася Карашчанкі*** ззаду падышлі людзі ў цывільным. Сказалі, што яны з крымінальнага вышуку, і пацягнулі Стася да машыны. Побач з хлопцам былі ягоныя сябры. Іх таксама схапілі другія вярзілы. Але потым, відаць, зьверыўшы іх з фотаздымкамі, сказалі, што гэтых ня трэба.

Стася Карашчанку пачалі біць, потым схапілі за каўнер і душылі яго. Ён паведаміў, што і ў Цэнтральным РАУСе, куды яго прывезьлі, таксама білі.

Пасьля напісаньня пратаколу Стася адпусьцілі. На хлопчыка было балюча глядзець: увесь твар быў моцна зьбіты, правае вока было апухлае, над левым — крывавая рана. Акрамя таго, Стась сказаў, што яго білі па сьпіне і па нырках.

*З Управы Беларускага Народнага Фронту* Стася адвезьлі ў шпіталь. Там ён атрымаў неабходную медыцынскую дапамогу і накіраваньне на абсьледваньне.

Нават пасьля гэтага ў хлопчыка яшчэ трэсьліся рукі, ён ня мог да канца выйсьці з шокавага стану.

Трэба адзначыць, што ўлады зьмянілі тактыку. Калі б год таму людзі пайшлі на несанкцыянаваны мітынг на Цэнтральную (Кастрычніцкую) плошчу, яны б наткнуліся на кардон спэцназу і АМАПу, іх бы пачалі хапаць і зьбіваць на вачох журналістаў. Зараз ёсьць загад нікога ня рушыць перад фота і відэа-камэрай. Нападаюць пасьля мерапрыемства. Калі журналісты сыходзяць — пачынаецца „хапун". Людзей хапаюць нечакана, каб не маглі паведаміць пра сябе сваім родным і блізкім. *„Вясна-96"* у апошні час сустракае ўсё болей перашкодаў, каб даведацца аб месцы знаходжаньня гэтых людзей. Міліцыянты ня толькі нахабна хлусяць, але і спэцыяльна распаўсюджваюць дэзынфармацыю. Калі прааналізаваць апошнія затрыманьні, то можна прыйсьці да высновы, што ўлады найбольш арыштоўваюць і б'юць непаўналетніх, назіральнікаў і людзей, якія раней не траплялі ў міліцэйскія пастарункі.

***(Беларуская рэдакцыя радыё „Свабода". Любоў ЛУНЁВА)***

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЫТУАЦЫЯ ЗЬМЯНЯЕЦЦА

(Ліст да сяброў БНФ)

*Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб выбарах прэзыдэнта.* Гэтае рашэньне канстытуцыйнае і згоднае з правам. Палітычныя дачыненьні на Беларусі паступова будуць зьмяняцца і набываць рэальны кшталт. Адыйдуць на сваё месца маргінальныя дэмакраты зь іх „тусовачным" пустазвонствам, і на арэне застануцца дзейныя палітычныя сілы.

На сёньняшні дзень гэтыя сілы выглядаюць так:

— *арганізаваныя групы дыктатуры, улада, афіцыёз;*

— неарганізаваныя, а таксама не заяўленыя пасыўныя сілы намэнклятурнай апазыцыі;

— Беларускі вызвольны рух — сілы, згуртаваныя вакол беларускай нацыянальнай ідэі і Беларускага Народнага Фронту.

Усё астатняе — маргінальныя зьявы, у разрад якіх цяпер трапляюць нават камуністы. Яны ня маюць самастойнага погляду на беларускую дзяржаву і расколюцца паміж сіламі дыктатуры і намэнклятурнай апазыцыяй.

Што датычыць „дэмакратычнай тусоўкі", то яна расьцярушыцца паміж апазыцыйнай намэнклятурай і Вызвольным рухам (БНФ). Прытым большасьць пойдзе з намэнклятурай.

Гэта добрыя зьявы. Пачнуцца працэсы палітычнага аздараўленьня становішча, санацыя беларускай палітыкі.

Дзеля таго каб ліквідаваць дыктатуру, трэба стварыць важную ўмову — накапіць грамадзкую сілу. Палітыка супраць дыктатуры без накапленьня сілы супраць дыктатуры ёсьць пустая справа. Накапленьне сілы — абавязковае дзеяньне.

Для ўсталяваньня беларускай нацыянальнай улады і дэмакратычнага ладу патрэбныя дзьве ўмовы: магчымасьць выбіраць парлямант на прапарцыйнай (ці хаця б на зьмешанай) аснове і ліквідацыя жорсткай прэзыдэнцкай сыстэмы кіраваньня.

Каб гарантаваць суверэнітэт і незалежнасьць Беларусі, патрэбна абавязковая і катэгарычная ўмова — дыстансаваньне ад Расеі. Трэба забясьпечыць палітычную, эканамічную і інфармацыйную бясьпеку Беларусі перад Масквой.

Для таго каб гарантаваць духоўную, культурную і гістарычную будучыню беларускай нацыі, трэба зрабіць дзяржаўнай беларускую мову і хутка аднавіць усе яе грамадзкія функцыі.

Вось што абавязкова трэба зрабіць. Толькі тады можна казаць пра рэформы ў эканоміцы. Але ня мае сэнсу ніякая казань, пакуль ня будзе зьліквідаваная дыктатура.

Выхад з дыктатарскага рэжыму бачыцца наступным чынам:

— падтрымка рашэньня Вярхоўнага Савета аб выбарах прэзыдэнта Беларусі;

— прыняцьце беларускай дзяржаўнай пазыцыі як абавязковай умовы для ўсіх беларускіх кандыдатаў на выбарную ўладу;

— выкарыстаньне выбарчай кампаніі для мабілізацыі грамадзтва супраць акупацыі і дыктатуры пад сьцягам беларускай нацыянальнай ідэі і стварэньне супольнасьці грамадзянаў Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР);

— стварэньне Камітэтаў грамадзянаў БНР;

— стварэньне мясцовых органаў самакіраваньня на аснове камітэтаў грамадзянаў БНР;

— стварэньне страйкамаў і мабілізацыя грамадзтва на ўсеагульны страйк супраць дыктатуры;

— выбраньне Грамадзяскага (Нацыянальнага) парляманту Беларусі (ГПБ) на аснове прынцыпаў прадстаўніцтва і непасрэднай дэмакратыі ад Камітэтаў грамадзянаў БНР, органаў самакіраваньня, страйкамаў, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, асацыяцыяў, групаў насельніцтва, прафсаюзаў і г.д.

**Задачы Грамадзянскага (Нацыянальнага) парляманту:**

гарантыя незалежнасьці Беларусі,
стварэньне сыстэмы самакіраваньня,
стварэньне Часовага ўраду,
прыняцьце на сэсіі ГПБ Закона аб выбарах у парлямант на зьмешанай аснове (праект закона падрыхтаваны) і стварэньне Цэнтральнай Выбарчай Камісіі (ЦВК). (Потым — акруговых камісіяў па выбарах.) Магчыма, будзе прызнаная ўжо існуючая ЦВК;

— аб'яўленьне парляманцкіх выбараў (пасьля заканчэньня прэзыдэнцкай кампаніі).

Гэты шлях да рэальнага двоеўладдзя прадугледжвае адначаснае стварэньне грамадзкай антыдыктатарскай сілы і разьлічаны на 1999 год.

Выходзячы з пазыцыі БНФ, канкрэтызацыя асобных аспэктаў прэзыдэнцкай кампаніі будзе выкладзена Старшый Фронта.

Адносна выбараў у парлямант мушу паўтарыць: сутнасьць ня ў новых парляманцкіх выбарах, а ў новым выбарчым законе. Грамадзкае становішча ў Беларусі такое, што нават самыя дэмакратычныя выбары па старым мажарытарным законе не дадуць магчымасьці стварыць нармальны прафэсійны дэмакратычны парлямант. Ён будзе падобны на два папярэднія.

Перад Вызвольным рухам і ўсімі тымі, хто здольны арганізавана працаваць, наперадзе велізарная, часам руцінная ахвярная дзейнасьць. Шмат што будзе ўдакладняцца, можа, нават перайначвацца, але агульная схема дзеяньняў ужо склалася. Ёсьць магчымасьць самаарганізавацца, ажыцьцявіць нацыянальную кансалідацыю і мабілізаваць сілы. Патрэбна толькі, як і дзесяць гадоў назад, асьмялець і перастаць баяцца, бо дыктатура нікчэмная.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*25 студзеня 1999 года*

# АНАЛІЗ БЯГУЧАГА СТАНУ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ

Рэжым Лукашэнкі ўжо дасягнуў свайго эпагею. Улада сканцэнтраваная ў руках аднаго чалавека, які зьнішчыў усе дэмакратычныя працэдуры зьмены ўлады. Прэзыдэнт захапіў найбольш прыбытковую дзяржаўную ўласнасьць і адпаведна частку бюджэта, на якіх будуецца капіталізм для вузкага кола набліжаных асобаў. Манапалізаваныя практычна ўсе сродкі масавай інфармацыі, праз якія праводзіцца замбіраваньне насельніцтва Беларусі. Улада дэзынфармуе людзей, паведамляючы аб быццам значных паказьніках росту валавага ўнутранага прадукту, прадукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Аднак інтэгральныя паказьнікі агульнага стану эканомікі сьведчаць зусім пра іншае. **У 1993 годзе** (за паўгады да прыходу Лукашэнкі да ўлады) на душу насельніцтва прыходзілася валавага ўнутранага прадукту — **$2820, у 1997 годзе — $970.** Для параўнаньня: у краінах Балтыі адбыўся адваротны працэс.

*Летува*: *у* **1993** *годзе было менш за* **$900** — *у* **1997** *годзе ўжо мела* **$2890** *на душу насельніцтва. Латвія*: было **$1100**, стала **$2985.** *Эстонія*: было **$1230**, стала — **$3260.** Самая бедная краіна ЭС — *Грэцыя* — мае УВП **$7250** на чалавека, а *Францыя, Германія і іншыя разьвітыя краіны* — больш за **$25000.**

*Беларускі рубель зь ліпеня 1994 года па сьнежань 1998 года суадносна да даляра ЗША патаньнеў больш чымся ў **500 разоў**.*

Вынікам непрафэсыйнай эканамічнай палітыкі зьяўляецца тое, што безнадзейна згубленыя 4 гады і эканоміка Беларусі стаіць на мяжы развалу. Рост валавага ўнутранага прадукту, аб якім трубіць афіцыйная псэўдастатыстыка, не адпавядае рэчаіснасьці. Аб гэтым сьведчаць фінансавыя вынікі дзейнасьці прадпрыемстваў і гаспадарак. Застаецца вялікая колькасьць стратных суб'ектаў гаспадараньня. *У канцы 1997 г. іх было* **1467 (13,7%)**, а *на 1-га кастрычніка 1998 г. іх стала* — **1666 (15,2%).** Павялічваецца сума стратаў. За ўвесь 1997 год страты склалі **3576** мільярдаў рублёў, а за 9 месяцаў 1998 г. — **4827,8** млрд. рублёў.

Запазычанасьць па паступлёньнях у бюджэт за 10 месяцаў 1998 году ўзрасла да **3891 млрд. рублёў**, або *ў 2,28 разы ў параўнаньні з 1997 годам. Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасьць* таксама павялічылася за гэты ж пэрыяд з **43,2 да 66,7 трыльёнаў рублёў**, або *на 54,4%, а крэдыторскія* — **з 49,5 да 89,9 трыльёнаў рублёў**, або *на 81,7%.*

Расьце *дэфіцыт зьнешняга гандлю.* Калі **за 10 месяцаў 1997** года ён склаў **$991,7 млн**, то **за адпаведны пэрыяд бягучага году — $1211 млн.** (павялічыўся на 22,1% болей).

Грашова-крэдытная палітыка Адміністрацыі прэзыдэнта, якая ўзяла на сябе функцыі Нацыянальнага банка, прывяла да павеліічэньня грашовай масы больш як у 4 разы, множнасьці курсу рубля, завышэньня курсу Нацыянальным банкам, зьніжэньня экспартных магчымасьцяў, росту інфляцыі больш як 100 адсоткаў у год, поўнага зьнішчэньня чыстых валютных рэзэрваў і паніжэньня валавых афіцыйных рэзэрваў да ўзроўню менш за 10 дзён імпарту пры норме ў 90 дзён.

Рэзка пагоршылася матэрыяльнае становішча насельніцтва Беларусі. *Цэны на прадукты харчаваньня і паслугі павялічыліся за мінулы год у* **1,6 — 2,1** *разы, за 10 месяцаў 1998 года яшчэ* **на 85,2%.** Заробак узрос суадносна на **13,3 і 74,8%.**

*У цэлым жа за пэрыяд прэзыдэнцкага праўленьня па стане на 1 лістапада 1998 г. кошты на мяса ўзрасьлі ў **30** разоў, на каўбасу вараную — у **50** разоў, яйкі — у **45** разоў, хлеб жытнёва-пшанічны — у **38** разоў, бульбу — у **38** разоў і г. д.*

У выніку антырынкавай дзяржаўнай палітыкі *практычна разбурана сельская гаспадарка.* Па выніках 1997 года ***226*** *гаспадарак* або **9%** *былі стратнымі*, а ***63,9%*** — *нізкарэнтабельнымі.* Усяго ***1825*** *калгасаў і саўгасаў*, або **72,9%** *не змаглі весьці ў 1998 годзе нармальную вытворчасьць.* Няўклюдныя, непрафэсійныя спробы А. Лукашэнкі ўратаваць нежыцьцяздольную калгасна-саўгасную сістэму наносяць непапраўныя страты ўсёй эканоміцы Беларусі. Адтэрміноўка плацяжоў па крэдытах і ссудах неплацёжаздольным гаспадаркам, валюнтарызм з будаўніцтвам жыльля на вёсцы ўтвараюць вялізную дзіру ў бюджэце на 1998 г. памерам каля **20** трлн. рублёў, што складае **20%** ад прыбытковай часткі бюджэту. Для іх аднаўленьня будзе ўключаны друкарскі станок, што прывядзе да чарговага непрагназуемага вітку інфляцыі, значнаму росту цэнаў і далейшаму зьбядненьню насельніцтва. У выніку разбурэньня сельскай гаспадаркі Беларусь страціла *харчовую бясьпеку.* У мінулым 1997 годзе грамадзкі сэктар забясьпечыў вытворчасьць (у разьліку на душу насельніцтва) *мяса **34** кг. пры норме **72** кг.*; *малака **222** літры замест **419***; *зерня **642** кг.пры патрэбе мінімум **800** кг.*; *бульбы — **694** кг. з 1100, выробленых у 1996* годзе. Гэта прыкладна ў 3 разы ніжэй узроўню спажываньня ў эўрапейскіх краінах. Калі б не самазабесьпячэньне насельніцтва бульбай, гароднінай і садавінай (***81-85%*** *ад агульнай вытворчасьці*), то часткі насельніцтва пагражаў бы голад.

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі штодзённа распавядаюць пра нібыта небывалы рост аб'ёму інвестыцыяў, зьніжэньне ўзроўню беспрацоўя, пасьпяховую барацьбу з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю і шмат яшчэ аб якіх дасягненьнях. Але гэта не адпавядае рэчаіснасьці, аб чым сьведчыць няўмольная статыстыка:

***Вытворчасьць некаторых відаў прамысловай прадукцыі***

| Прадукцыя | 1993г. | 1994г. | 1995г. | 1996г. | 1997г. | 10 месяцаў 1998 года | зьніжэньне вытвор-часьці ў %* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Электраэнэргія (млрд. квт. гадз.) | 33,4 | 31,4 | 24,9 | 23,7 | 26,1 | 18,6 | 22 |
| Грузавыя аўтамабілі (тыс.шт.) | 30,8 | 21,3 | 12,9 | 10,4 | 13,0 | 10,5 | 58 |
| Трактары (тыс. шт.) | 82,4 | 42,9 | 26,5 | 26,8 | 27,4 | 22,9 | 66 |
| Кармауборачныя камбайны (шт.) | 4302 | 1429 | 1069 | 965 | 910 | 567 | 79 |
| Металаапрацоўчыя станкі (шт.) | 10338 | 5723 | 4680 | 4396 | 4610 | 4705 | 55 |
| Цэгла (млн. умоўных шт.) | 2012 | 1460 | 1108 | 995 | 1113 | 991 | 55 |
| Піламатэрыялы (тыс. куб.м.) | 2374,5 | 1957,8 | 1834,4 | 939,7 | 1148,5 | 1056,6 | 51 |
| Шыфер (млн. умоўных плітак) | 364,2 | 164,9 | 137,9 | 149,6 | 222,7 | 168,3 | 39 |

* Зьніжэньне вытворчасьці ў 1997 годзе ў працэнтах да паказчыкаў 1993года

**Сацыяльна-эканамічныя паказчыкі дзейнасьці народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь за пэрыяд з 1993 па 1 ліпеня 1998 года**

| Сацыяльна-эканамічныя паказчыкі | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | За 9 месяцаў 1998 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць стратных прадпрыемстваў і іх працэнт да агульнай колькасьці (адзінкі) | 502 (6,2%) | 618 (7,3%) | 1571 (17,9%) | 1737 (18,4%) | 1467 (13,7%) | 1666 (15,2%) |
| Узровень рэнтабельнасьці (прыбытак ад рэалізацыі ў адсотках да сабекошту рэалізаванай прадукцыі) | 17,4 | 20,7 | 9,9 | 9,7 | 10,6 | 9 |
| Колькасьць зарэгістраваных злачынстваў, у тым ліку: | 103321 | 120254 | 131761 | 127232 | 128420 | 90225 |
| наўмыснае забойства і замах на забойства, | 885 | 952 | 1117 | 1130 | 1195 | 905 |
| наўмыснае цяжкае цялеснае пашкоджаньне, | 1758 | 1784 | 1836 | 1895 | 1971 | 1591 |
| разбой. | 1131 | 1359 | 1418 | 1548 | 1622 | 1028 |
| Інвестыцыі ў асноўны капітал ў адсотках да агульнага аб'ёму інвэстыцыяў 1993 года | 100 | 89 | 61,4 | 58,3 | 70,0 | — |
| Перавезена грузаў транспартам агульнага карыстаньня (млн. тон) | 280,1 | 178,1 | 132,7 | 107,0 | 114,0 | 91,1 |
| Колькасьць беспрацоўных на канец пэрыяду (тыс. чалавек) | 66,3 | 101,2 | 131,0 | 182,5 | 126,2 | 105,8 |

**Вытворчасьць некаторых відаў прадукцыі аграпрамысловага комплексу**

| Прадукцыя | 1993 год | 1994 год | 1995 год | 1996 год | 1997 год | За 10 месяцаў 1998 года | Зьніжэньне вытворчасьці ў %* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мяса, уключаючы субпрадукты 1-й катэгорыі (тыс.тон) | 554,2 | 474,9 | 381,4 | 340 | 264,3 | 218,9 | 52 |
| Масла сьметанковае (тыс. тон) | 87,0 | 73,6 | 65,1 | 61,8 | 70,0 | 64,1 | 20 |
| Каўбасныя вырабы (тыс. тон) | 196,2 | 163,7 | 141,3 | 150,1 | 138,6 | 114,7 | 30 |
| Маргарынавая прадукцыя (тыс.тон) | 35,6 | 19,2 | 17,0 | 25,3 | 22,7 | 18,3 | 36 |
| Мука зь дзяржаўнага зерня (тыс.тон) | 1330 | 1164 | 917 | 984 | 872 | 743 | 34 |
| Крупы (тыс.тон) | 135,6 | 91,7 | 72,6 | 59,1 | 95,5 | 77,9 | 30 |
| Хлеб і хлебабулачныя вырабы (тыс.тон) | 1494 | 1345 | 1037 | 992 | 923 | 770 | 38 |
| Камбікармы (тыс.тон) | 3107 | 2450 | 2061 | 1888 | 1924 | 1584 | 38 |

** Зьніжэньне вытворчасьці ў 1997 годзе ў адсотках да пакажчыкаў 1993 года*

**Вытворчасьць нехарчовых тавараў народнага спажываньня**

| Тавары народнага спажываньня | 1993 год | 1994 год | 1995 год | 1996 год | 1997 год | За 10 месяцаў 1998 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Трыкатажныя вырабы (млн. штук) | 111,6 | 65,6 | 38,8 | 36,8 | 42,8 | 47,8 |
| Панчошна-шкарпэткавыя вырабы (млн. пар) | 132,0 | 72,8 | 54,7 | 51,3 | 65,6 | 67,4 |
| Скураны абутак (млн. пар) | 33,4 | 26,4 | 13,0 | 11,4 | 15,3 | 13,2 |
| Фотаапараты (тыс.штук) | 494,8 | 127,9 | 34,2 | 34,6 | 21,5 | 10,6 |
| Тэлевізары каляровыя (тыс.штук) | 585 | 347 | 175 | 221 | 351 | 308 |
| Халадзільнікі і маразільнікі бытавыя (тыс.штук) | 738 | 742 | 746 | 754 | 795 | 675 |
| Гадзіньнікі бытавыя (тыс.штук) | 16859 | 14311 | 6603 | 4809 | 4952 | 4184 |

***Матэрыял падрыхтаваны Ценявым Кабінэтам БНФ***



# КУРАПАТЫ. 10 ГАДОЎ ПАСЬЛЯ

*(Працяг. Пачатак у №№ 3 – 7 (98))*

Камуністам, ветэранам і энкавэдзістам *Курапаты* былі, як бяльмо ў воку. З пачаткам палітыкі энкавэдзісцкага рэваншу трэба было чакаць захадаў па зьнішчэньні *Курапатаў*. Так яно і атрымалася. Першымі залемантавалі камуністы-сталінцы, цьвёрдыя бальшавікі. Яны пачалі адмаўляць сталінскія расстрэлы, сьцьвярджаць, што такога не было і што ў *Курапатах* немцы, маўляў, расстралялі габрэяў. Тое, што гэта звычайная камуністычная выдумка і глупства, ведалі і ў пракуратуры, і ў сьледстве, і ў Акадэміі Навук, і ў вёсцы Цна. Тым ня менш С.Шушкевіч падпісаў рашэньне аб праверцы вынікаў дасьледваньняў. Зноў усчалі сьледства.

Мяне ўвогуле ўвесь гэты тлум ужо амаль не цікавіў, бо я ведаў, што хто б ні стараўся сфальшаваць падзеі ў *Курапатах*, у яго нічога не атрымаецца. Зрабіць чорнае белым было немагчыма. Калі злачынцы ці іх нашчадкі пачынаюць шумець, каб апраўдаць ці абяліць мінулае, яны тым самым толькі топяць сябе, хочучы ці ня хочучы, прылучаюцца да злачынства. Але ім здаецца, што яны ўсіх ашукаюць. У народнай творчасьці аднак бытуе шмат прыпавесьцяў пра дурнога вераб'я, які, дзе ня трэба, чырыкаў. Фінал вядомы.

Бальшавікі сабралі мноства дылетантаў, падстаўных сьведак і проста ненармальных людзей, пасьля чаго, вобразна кажучы, пасадзілі сябе ў лужыну. Новае сьледства пацьвердзіла вывады пра Курапаты.

Але цьвёрдыя бальшавікі зноў пайшлі ў атаку. Вынік зноў быў такі ж самы. З усталяваньнем дыктатуры яны рушылі ў наступ яшчэ раз пры падтрымцы рэжыму. Цяпер, калі энкавэдзісты захапілі ўладу ў Беларусі, ім адчыніліся, як яны думаюць, шансы ўсё забараніць і ўсё вярнуць.

Яны яшчэ больш, чым раней, сталі дэманстраваць адкрыта зьняважлівыя адносіны да *Курапатаў*. Вывернулі і пахілілі ***Крыж Пакуты***, пазьбівалі надпісы і ўказальнікі, панакідалі сьмецьця, сталі выводзіць на месца расстрэлаў выгульваць сабак, а ў магільных ямах зноў разьмясьціліся аматары пікнікоў, выпіць і закусіць, пасмажыць шашлыкі.




Фота Ю. Дзядзінкіна

*26 ліпеня 1998 г. актывісты Мартыралёга і БНФ на Ігуменскай „Дарозе сьмерці"*

Памятаю, зімой 1994 года, у час спатканьня ў *Курапатах*, прэзыдэнт ЗША Клінтан спытаў у мяне:

— А чаму мясьціна, якая павінна быць сьвятой, у недагледжаным выглядзе?

— Таму што ў Беларусі кіруюць нашчадкі тых, што тут забівалі, — адказаў я.

* * *

Летам 1995 года мы ішлі па Курапацкім лесе з ***Уладзімерам Коласам***. Падыйшлі да „шашлычнай групы". Вогнішча расклалі проста на магіле. Аб'едкі, сьмецьце. Муж і жонка, двое дзяцей. У вочы не глядзяць. Пазналі. Грае магнітафон.

— Ці ведаеце, дзе вы знаходзіцеся? — Маўчаць. Я паўтарыў пытаньне.

— А что?

— Гэта *Курапаты*.

— Ну і что?

— Грэх паліць вогнішча і весяліцца на магіле расстраляных. — Зноў маўчаць.

— Чаму вы гэта робіце?

— А куда нам дзевацца, куда? — злосна залемантавала раптам пасьля доўгага маўчаньня маладзіца. — Вот мы прыехалі із Калініна, а что мы імеем? Муж афіцэр, а сколька он палучает! Так нам ужэ і выйці нікуда нельзя, да? Верховнаму Савету толька *Курапаты* і нада, а что вы нам далі?

Маладзіца схапіла меншае дзіця, што якраз вылезла з магільнае западзіны і падкруцілася пад рукі, і стала яго дэманстратыўна цалаваць, абдымаць, ахінаючы рукамі, нібы абараняючы ад некага.

— Вы там в Верховнам Савеце толька а власьці гаварыце, а народу кушаць нечэва, — прадаўжала афіцэрская жонка, соваючы дзіцяці „сінікерс", — і ваабшчэ, зьдзесь пахаронены еврэі, а вы хаціце всех рускіх выселіць в Расію, — скончыла яна.

Вось ён, думаю, тыповы род людзей, тыповыя паняцьці і тыповыя паводзіны. На іх ідэальна кладзецца камуністычная прапаганда. З такімі бяссэнсоўна размаўляць.

Я ўвогуле ўсур'ёз неяк ніколі не задумваўся над зьместам бальшавіцкай прапаганды аб тым, што Пазьняк будзе „высяляць", „вешаць", „страляць", „саджаць", „забіваць" усіх рускіх, усіх ветэранаў і ўсіх камуністаў. Элемэнтарны аналіз паказвае, аднак, што гэтакая прапаганда ёсьць агрэсія страху забойцаў і вінавайцаў, усіх, хто непасрэдна ці ўскосна меў дачыненьні да злачынстваў камунізму. Таемнае стала адкрытым, і спраўцы перапалохаліся. Спалохаліся адказнасьці. Ім здалося, што за зробленае іх будуць караць, і яны, шукаючы абароны, тут жа залемантавалі, што хоча тое зрабіць асабіста іхны, як яны лічаць, самы страшны вораг, які выявіў і засьведчыў злачынствы бальшавікоў.

Пра маштабы гэтае прапаганды казаць няма сэнсу, бо яна вось ужо скора дзесясь гадоў вісіць у паветры, як смог.

Аднакназіраньне за яе мэтадамі і зьместам умацоўвае перакананьне, што ўсяго таго, чаго так баяцца злачынцы і іхнія абаронцы, ім трэба адмераць спаўна: ад суду над спраўцамі злачынстваў да рэпатрыяцыі расейскіх акупантаў.

Іх вельмі шмат на Беларусі. Гэтых скручаных ад нянавісьці да нашай краіны асаднікаў, прысланых некалі з Расеі, каб расстрэльваць, бэсьціць, душыць, паскудзіць і забіваць. Памятаю, я быў уражаны, калі даведаўся, якую астранамічную суму з бюджэту выплочвае наша дзяржава пэнсіянэрам МУС і НКВД. Яны атрымліваюць у 2-3 разы большыя пэнсіі, чым беларусы і ненавідзяць усё беларускае з азьвярэласьцю шалёных сабак. (Што я назіраў, між іншым, сотні разоў.)

Гэтыя службісты пасьля выслугі гадоў дзе-небудзь у Магадане ці якім-небудзь Краснаярску, мелі права, згодна савецкіх законаў, пасяліцца на пэнсію ў вызначаных месцах, менавіта: у Эстоніі, Малдове, Заходняй Украіне і ў Беларусі. Выбіралі, як правіла, Беларусь. „Народ де харошый, прыветлівый. І нацыяналізма нет.”

Бальшавіцкая імпэрыя аблягчала свой бюджэт, высылаючы на пракорм у Беларусь самую шалёную катэгорыю русіфікатараў, зьмяняла тым самым і дэмаграфічны склад насельніцтва. (Што, дарэчы, згодна міжнародных законаў, зьяўляецца злачынствам супраць людзей.) Адстаўнік-русіфікатар з Магадану, што выбіраў месцам жыхарства Беларусь, мог пасяліцца з усёй сям'ёй у любым месцы і ў любым горадзе нашай краіны. Яму абавязаны былі тут жа выдзеліць кватэру, працаўладкаваць (звычайна, у аддзел кадраў) і даць усе ільготы.

* * *

Скончыўшы дасьледваньні *Курапатаў*, як і ў любой сур'ёзнай справе, я не сказаў усё, што ведаю. Пакінуў запас для нягоднікаў. Ужо ў першай жа (шушкевічаўскай) рэвізіі Курапатаў шмат хто аскандаліўся на хлусьні. У наступнай, ужо лукашэнкаўскай рэвізіі, камуністы ганебна пагарэлі з канцэптуальнасьцю сваей ілжы, якую яны збудавалі на ўяўных габрэйскіх расстрэлах.

Даказаць недаказваемае немагчыма. Таму камуністам-сталінцам важна было хоць бы пасеяць сумненьні ці выклікаць спрэчкі, і тым самым зьнізіць значэньне мясьціны сталінскага генацыду. Легенда пра расстраляных габрэеў ніяк не стыкавалася з інфармацыяй, матэрыяламі і фактамі дасьледваньняў. Гэта аднак не бянтэжыла бальшавікоў. Сэнс быў як раз ў ляманце, і яны лямантавалі.

* * *

Неяк спаткаў я доктара гістарычных навук спадара Ліцьвіна, які вывучаў перыяд вайны. Ён мне і кажа, што камуністы шумяць пра расстрэлы габрэяў, пішуць паперкі.

— А вы парайце ім зьезьдзіць у Трасьцянец, дзе немцы расстралялі тысячы габрэяў разам зь беларусамі, — кажу я.

— І што?

— А тое, што ўжо пяцьдзесят гадоў марадзёры-далакопы раскопваюць і паскудзяць гэтыя агульныя магілы, а побач — камуністы зрабілі гарадзкую звалку. І нічога — ім ня пахне і не баліць — жывыя. Можаце пачытаць таксама іхнія сантымэнтальныя буклецікі пра Трасьцянец, куды яны ніколі не зазіраюць.

— Это другое дело, — кажа доктар Ліцьвін.

— А хочаце, я вам пакажу трэцяе, — кажу я. — Месца зьнішчэньня габрэяў непадалёк ад *Курапатаў*.

Мы селі ў машыну і паехалі. Я ведаў, што на адлегласьці шасьці-сямі кілёмэтраў ад *Курапатаў*, у бок Калодзішчаў, існаваў у час вайны лягер, куды немцы звозілі габрэяў і тут жа іх зьнішчалі. Мне казалі, што там было іх забіта вельмі шмат. У 1988 годзе, калі я пачаў абсьледваньне гэтай мясьціны, я нечакана натрапіў сярод поля, ў кустах, непадалёк ад дарогі, на мэмарыял — пляцоўку, вымашчаную сенажнай пліткай. Пасярэдзіне пляцоўкі стаяў нізкі бэтонны помнік з памятным надпісам пра зьнішчэньне людзей. Гэтага мэмарыялу я не знайшоў у сьпісах помнікаў і памятных мясьцінаў вайны. З выгляду — помнік пастаўлены не раней 60-х гадоў.

Цікава было назіраць за доктарам Ліцьвінам, калі я яго прывёз у тую мясьціну. Ён быў зьбянтэжаны, бо нічога ня ведаў пра існаваньне гэтага помніка; у літаратуры зьвестак пра яго ён таксама не сустракаў. Адным словам, забыты мэмарыял.

* * *

Што здарыцца зь беларусамі, калі забудуцца пра *Курапаты*? (Я казаў у пачатку пра знакавае значэньне гэтага месца ў жыцьці Беларусі.) Ці будзем мы ўвогуле тады нацыяй? На што больш страшнае і больш сымвалічнае можна яшчэ нам забыцца, каб духоўна памерці навек? І што ёсьць у нашай памятнай гісторыі больш пакутніцкае і больш жахлівае, чым ленінска-сталінскі генацыд?

Калі я некуды прыяжджаю, ці ў вёску, ці ў горад, я імкнуся паглядзець могілкі. Гэта ня толькі памятная кніга паселішча, гэта гісторыя і аблічча яго людзей. У падсавецкай і пасьлясавецкай Беларусі гэтае „аблічча” ёсьць шмат дзе зарослае кустамі, крапівой, з пазьбіванымі крыжамі і разбуранымі абэліскамі, закіданае смецьцем; прыстанішча п'яніц і зьдзічэлых катоў.

Вось ужо дзесяць гадоў па начах, а то і днём, нейкія людзі раскопваюць магілы ў *Курапатах*. Яны сквапна перабіраюць пакутныя косьці, дзіравыя боты на стаптаных абцасах, галёшы, самаробныя бахілы — рэшткі бедных людзей. Іх перад расстрэлам не абрабавалі нават энкавэдзісты, бо ведалі, як пісаў іхны бальшавіцкі паэт: „Нищие, что с вас сжулить?” Аж не, знайшліся нашчадкі, што абкрадуць нават труп жабрака, выцягнуць ягоны шкілет з пакутнае брацкай магілы.

Тут я не зьбіраюся абагульняць. Раскопваюць магілы псыхічна хворыя на нэкрасындром і падонкі. Але ж робіцца гэта ўсё, як і смажаньне шашлыкоў, на віду ў людзей вось ужо дзесяць гадоў падрад. Усе мае захады, пачынаючы з 1988 года, да міліцыі, пракуратуры, у міністэрствы, да мясцовых органаў улады з патрабаваньнем выявіць злачынцаў і спыніць раскопваньне магілаў, ні да чаго не прывялі. Тыя, да каго я зьвяртаўся, нічога не хацелі і ня хочуць рабіць.

Але гэта б было паўбяды, калі б грамадзтва паводзіла сябе інакш, чым паводзіць улада. На жаль, паводзіны аднолькавыя. І тут нічога ня зьменяць і не дапамогуць ніякія энтузіясты.

* * *

Мне здаецца, што не было ў нас больш няшчасных людзей, чым людзі з пакаленьня 20-х — 30-х гадоў, якое трапіла пад генацыд. Іхняе жыцьцё — гэта пекла на зямлі, несправядлівасьць і сатанінская жорсткасьць, якая перасьледуе іх нават пасьля сьмерці. Гэта рок, праклянцьце маўклівых. Яно ня скончыцца, пакуль ня будуць пакараныя забойцы, пакуль не разбурыцца іхняе царства, не зруйнуюцца вавілёнскія вежы.

Тут, на Беларусі, яны захаваліся: і Берасьцейская крэпасьць, і вуліцы з імёнамі бандытаў, і савецкія танкі на пастамэнтах.

***Міхась Дубянецкі*** расказваў мне, як ***яго бацька Хведар*** сядзеў у берасьцейскай крэпасьці, дзе была страшная турма НКВД. Расказваў, як дапытвалі, як вазілі на расстрэл. 22 чэрвеня 1941 года, калі немцы ўдарылі па Берасьці, узьнікла паніка. Вязьні пачалі разьбягацца, і азьвярэлыя энкавэдзісты расстрэльвалі іх з наганаў. Хведар Дубянецкі, уцякаючы ў натоўпе, выбег якраз на энкавэдзіста. Той наставіў у яго рэвальвер.

— На хлеб, на! — закрычаў з попрыску Дубянецкі, і сунуў у рукі забойцу кавалак турэмнага хлеба. Хвіліна замяшаньня — і Дубянецкі праскочыў на выхад. Энкавэдзісты перастралялі вязьняў, колькі здолелі, але самы апынуліся ў пастцы, бо немцы занялі горад.

Ім удалося потым выбрацца з казематаў, пасьля чаго і быў створаны прапагандысцкі міф пра „гераічную" абарону берасьцейскай крэпасьці савецкім гарнізонам. Турму НКВД назвалі „Брестская крепость-герой".

* * *

Як ня дзіўна, але самыя цяжкія душэўныя пакуты ў сувязі з *Курапатамі,* я перажыў у 70-х гадах. Камуністычная ноч тады здавалася бясконцай. Ішлі гады, і горад спакваля будаваўся, падступаў да расстрэльнага лесу. Трывога, што страшная памяць пра мардаваньне нацыі намарна згіне, перапаўняла і прыгнятала мяне. Я не знаходзіў тады ні месца, ні спакою. Паматаю, неяк гаварылі са Шмыгалёвым, каб неўпрыкмет паставіць там крыж.

У бяссонныя ночы мне часта марылася, што скончыцца камуна і ўсе даведаюцца пра магілы. Мне ўяўлялася, як тысячы людзей у жалобе нясуць на руках праз увесь горад вялікі пакутніцкі крыж. Прыносяць і ставяць яго ў тым лесе над магіламі расстраляных. Усе даведаліся, і ўвесь народ здрыгануўся. Гэтая карціна, нібы сон, доўгія гады жыла ва ўяўленьні.

Рэдка такое бывае ў жыцьці, але гэтае ўяўленьне ажыцьцявілася. У 1989 годзе восеньню на *Дзяды* дзясяткі тысячаў людзей, моц народу, з харугвамі і *беларускімі бел-чырвона-белымі сьцягамі* пранесьлі праз увесь горад ад Усходніх могілак і да *Курапатаў* сяміметровы *Крыж Пакуты.* Яго ўкапалі і паставілі пад гукі ўрачыстага рэквіема, і словы малітвы зьліваліся з шумам дрэў.

* * *

Якімі я ўяўляю мэмарыяльныя *Курапаты*? Маё ўяўленьне простае, разьлічанае на духоўны рост беларускай нацыі. Ня будзе росту — ня будзе і мэмарыяльных *Курапатаў.* Я ўяўляю, што кожны беларус, кожны чалавек, які ў нейкім пакаленьні роду пацярпеў ад камуністычнага генацыду, ці проста кожны той, хто мае сэрца і веру, жаласьць і любоў да свайго народу, той *хай прыносіць у Курапаты свой крыж* і ставіць яго, дзе захоча. Я ўяўляю *мэмарыяльныя народныя Курапаты*, дзе над магіламі сасновы лес дрэў і лес рукатворных крыжоў. Калі ідзеш ад шашы па дарозе ўгару да магілаў — паабапал калюмны крыжоў. Іх тысячы, іх дзясяткі, сотні тысячаў, прынесеных беларусамі і ўкапанымі ў пакутнаю, палітую нявіннай крывёю зямлю. Яны стаяць паабапал Дарогі Сьмеці: крыжы-людзі, крыжы-беларусы зь імёнамі расстраляных, забітых, замучаных продкаў, што сабраліся тут перад Страшным Судом.

Кожны нясе сюды свой крыж. Колькі яго прыдзецца несьці кожнаму? Год? Два? Ці, можа, пятнаццаць? Ці цэлую вечнасьць?

Колькі яго прыдзецца несьці ўсім?.. Невядома.

Пакуль што ў Курапатах чатыры крыжы.

Чатыры крыжы...

## 5 СЬНЕЖНЯ. БАРЫСАЎ ЖЫВЕ ПАД СЬЦЯГАМІ СЛУЦКІХ ВАЯРОЎ

*Уноч з 4 на 5 сьнежня* беларускія патрыёты ўпрыгожылі горад сьцягамі БНР, пад якімі нашыя продкі-героі ў лістападзе-сьнежні 1920 года змагаліся супраць расейскіх бальшавікоў-акупантаў за свабоду і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны і ў няроўнай барацьбе трагічна загінулі. Сёньня іх нашчадкі падхапілі гэты сьцяг.

*Бел-чырвона-белыя сьцягі* з чорнай акаёмкай луналі на галоўных будынках горада: пракуратуры, народнага суда, райвыканкама, на будынках цэнтральнага гарадзкога пляца, у вайсковым гарадку *„Печы"* і іншых месцах.

***Як бы ні хацелі прарасейскія колы, якія зараз ва ўладзе, зьнішчыць нашую волю і любоў да гістарычнае сымболікі, гэта ў іх не атрымаецца. Вельмі скора яна вернецца да нас назаўсёды. Жыве Беларусь!***

***Вольныя беларусы***

## ЯК У БАРЫСАВЕ ПРАВОДЗІЛІ СТАРЫ І СУСТРАКАЛІ НОВЫ ГОД

Ня толькі выбухамі традыцыйнага шампанскага. у навагоднюю ноч група барысаўскай моладзі на вачох публікі здолела вывесіць *бел-чырвона-белы сьцяг* на дроце на вул.Чапаева, што непадалёку ад мясцовага гарвыканкаму. Твары юнакоў былі напалову схаваныя шалікамі.

Нягледзячы на тое, што Барысаў стаў горадам пераважна вайсковага небеларускага насельніцтва, многія юнакі падтрымалі гэтую акцыю воклічамі ***„Жыве Беларусь"*** і ***„Далоў дыктатуру!"***

Гэта між тым быў ні адзіны нацыянальны сьцяг, узьняты ў Барысаве на Новы год. Ён таксама зьявіўся на перакрыжаваньні цэнтральнага праспекту Рэвалюцыі ды вул.Леніна. Калі першае палотнішча было зьнятае міліцыяй 1-га студзеня, то другое, менш даступнае, заставалася над горадам тры дні. Учора сьцяг здымалі з дапамогай спэцыяльнай тэхнікі. *Легендарны Мірон* на гэты раз ніякага дачыненьня да барысаўскіх акцыяў ня меў.

***(Паводле Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода". К. Яноўскі)***

## А НІЧАВО!

Заехаўшы ў тупік, Лукашэнка заўсёды шукае вінаватых. Вінаватыя ёсьць. Гэта чыноўнікі, „жульё", Амэрыка і Эўропа. Але найбольш — урад. Хаця пры чым тут урад. Урад кіруе, як скажа Лукашэнка, а Лукашэнка — як умее. (Дакладней, як ня ўмее.) Патрэсьці ўрад — запаснае дзеяньне Лукашэнкі, каб пазьбегнуць адказнасьці на выпадак, калі

стане зусім дрэнна. Казёл ёсьць і чакае свайго ахвярнага часу.

Здаецца, што ён набліжаецца, той дрэнны час.

27 студзеня ў Менску больш 10 тысячаў рабочых вышлі пратэставаць пад кіраўніцтвам надзейных прафсаюзных старшыняў, якія падрыхтавалі надзейную рэзалюцыю. Зьмест яе ў тым, што калі жыцьцё не палепшыцца і да 30-га сакавіка зарплаты ня выплацяць ды не павялічаць, то будзе пастаўленае пытаньне аб адстаўцы... ўраду.

Сур'ёзная справа. Успамінаецца старая расейская гісторыя.

*Сабраліся мужыкі, узлаваліся на пана і рушылі маёнтак паліць. Прывалілі, запоўнілі двор і крычаць:*

*— Выхадзі, выхадзі, барская морда!*

*І тут раптам „барын" выйшаў. На балкон.*

*— Ну, чаво?*

*Мужыкі сьціхыліся і маўчаць. Ажно тут самы адважны выйшаў наперад, ды як урэжа:*

*— Чаво, чаво! А нічаво!*

От так трэба паноў палохаць.

***Адам МІКША***

## ПРЭС-РЭЛІЗ

Падчас сустрэчы са старшынёй лукашэнкаўскага Цэнтрвыбаркаму Л. Ярмошынай Лукашэнка заявіў, што *ён настойвае, каб у новы выбарчы закон была ўведзена забарона на ўдзел у выбарах кандыдатаў, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасьці.* Ён папярэдзіў дэпутатаў ніжняй палаты, што калі яны не прагаласуюць за гэты артыкул, то ён увядзе яго сваім дэкрэтам. Такім чынам Лукашэнка не дапускае да выбараў сваіх палітычных апанентаў. Фактычна, няма ніводнага апазыцыйнага палітыка, які б не прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці (папярэджаньне, штраф, арышты да 15 сутак).

* * *

Беларускае міністэрства абароны заключыла з Кітаем кантракт на 500 млн. даляраў. Але вайсковае ведамства атрымае толькі 10 адсоткаў ад сумы. *Куды пойдуць астатнія 450 млн. — невядома.* З часоў СССР на базе НЗ „Красны Бераг" захоўваюцца спэцыяльныя трубы. Іх зьбіраюцца рэалізаваць у Кітай.

* * *

Новы міністар МЗС (47-гадовы *Урал Латыпаў*, ураджэнец Башкірыі) працаваў памочнікам Лукашэнкі. Дапамагаў „прымаць і рэалізоўваць рашэньні ў галіне зьнешняй палітыкі„. *Асноўную частку жыцьця прысьвяціў службе ў КГБ.* Апошняя пасада — намесьнік начальніка Інстытута нацыянальнай бясьпекі Беларусі. На пенсію пайшоў у званьні палкоўніка. Прафэсар, валодае ангельскай і французкай мовамі.

* * *

Расейскія СМІ паведамілі аб стварэньні у Беларусі *„аддзела разьведкі і асабістай бясьпекі"* (ОРСБ). Паводле словаў камандзіра атрада Д. Паўлючэнкі, ОРСБ прызначаны *„для барацьбы з тэрарыстамі, наркадзялкамі ва ўмовах лясіста-балоцістай мясцовасьці".* Маёр кажа, што „сьпецназ ня мае адносінаў да разгону масавых дэманстрацыяў апазыцыі, захопу і застрашэньню яе лідэраў. Калі, канешне, нас ня ўцягнуць у гэтую справу". Маскоўская газэта „Сегодня" паведаміла, што атрад пакінуў Менск і перабазаваўся ў лясы Віцебскай вобласьці. Ня выключана, што ў Докшыцкім раёне ён будзе забясьпечваць ахову летняй рэзыдэнцыі Лукашэнкі ў Бярэзінскім запаведніку.

* * *

***Зварот ТБМ імя Францішка Скарыны**: „Мы ня можам назіраць, як цяперашнімі ўладамі цынічна зьнішчаюцца нацыянальныя каштоўнасьці, найперш беларуская мова. Мова робіцца катэгорыяй палітычнай, і наступ на яе невыпадковы. Такое ўжо было ў Расейскай імпэрыі і ў сталінскія часы ў СССР. Мэты гэтых дзеяньняў відавочныя — асімiляваць беларускі этнас і пазбавіць яго перспэктывы мець сваю сапраўдную дэмакратычную дзяржаву. Вывядзеньне з ужытку і зьневажаньне мовы карэннага этнасу Беларусі ляжыць у аснове афіцыйнай палітыкі апошніх 4 гадоў... Дэмакратычныя сілы Беларусі ня могуць не разумець, што змаганьне за мову — гэта змаганьне за нашую свабоду."*

* * *

Трэцяга сьнежня ў Беларусь даставілі дзьве цынкавыя труны з Дагестану. Старшы лейтэнант *Сяргей Касьцюкевіч* быў родам зь Пінску, а старшы сяржант *Алег Карначоў* — з Рэчыцы. Абодва служылі ў мурманскім амоне. 29 лістапада яны трапілі ў засаду ў Дагестане, 5 амонаўцаў загінулі, сярод іх — *два беларусы.* Ім было па 29 гадоў.

* * *

У адстаўку адпраўлены кіраўнік адміністрацыі Ельцына Валянцін Юмашаў. На ягонае месца прызначаны Мікалай Бардзюжа. Менш чым за год ён прайшоў шлях ад намесьніка дырэктара Фэдэральнай памежнай службы да сакратара Савета бясьпекі і галавы адміністрацыі прэзыдэнта Расеі. Ельцын знайшоў надзейнага генерала, які не дазваляў сабе публічных палітычных выступаў. Сказалася школа контрразьведкі, якую Бардзюжа праходзіў у сістэме КГБ. У 1989-91гг. ён узначальваў аддзел Упраўленьня кадраў КГБ, у 1991-92гг. быў начальнікам Упраўленьня па працы з асабовым складам ФАПСІ пры прэзыдэнце РФ.

* * *

Дырэктар ФСБ Расеі Уладзімер Пуцін пра фашыстаў з „Рускага Нацыянальнага адзінства" (РНЕ): „Маскоўскія ўлады самы зарэгістравалі РНЕ. РНЕ не зарэгістраванае Мінюстам РФ, але яно зарэгістраванае ў 32 рэгіёнах Расеі".

* * *

Напярэдадні Новага году ў Берасьці Генеральны консул Расеі атрымаў незвычайны падарунак. Нехта даслаў расейскім дыпляматам пахавальны вянок.

* * *

Увага, наперадзе перапіс! Перапісныя лісты, зацьверджаныя загадам Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, падрыхтаваныя толькі на рускай мове, што зьяўляецца грубым парушэньнем Закона аб мовах. Небясьпечны 5 пункт. Пры савецкай уладзе тут была графа „нацыянальнасьць", цяпер — „язык". Гэты разьдзел складаецца з трох пытаньняў. Першае пытаньне „родной язык" спачатку адсутнічала, потым пад націскам грамадзтва яно зьявілася.

Наступнае пытаньне — „На каком языке вы обычно разговариваете дома?"і „Другой язык, которым свободно владеете?"

Дома многія грамадзяне размаўляюць на трасянцы, якая хутчэй за ўсё атрымае назву „рус. язык".

Пытаньне пра другую мову нават у савецкай анкеце ставілася больш карэктна. Не „другой язык", а „другія мовы, якімі вы валодаеце". Рэжыму патрэбны толькі адзін адказ: другая мова — толькі расейская, калі яна ўжо ня першая.

* * *

Паводле прагнозаў спэцыялістаў, няма намёку на паляпшэньне сытуацыі ў расейскай эканоміцы ў наступным годзе. Расея сутыкнецца з далейшым спадам на сусьветным нафтавым рынку. Ужо ў сярэдзіне сьнежня 1998г. цана на расейскую нафту ўпала ніжэй за 10 даляраў за барэль. Гэта не мяжа. У травені цана можа ўпасьці да 7,5 даляраў, а ў сярэдзіне будучай восені — да 5 даляраў.

*(Прэс-служба Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Валеры БУЙВАЛ)*

## DO PARLAMENTÓW I RZĄDÓW KRAJÓW EUROPY I USA

### Apel kierownictwa Białoruskiego Frontu Narodowego „Adradżeńnie" („Odrodzenie")

Szanowni Państwo,

zwracamy się do Was, mając nadzieję na poparcie naszej walki o demokrację, wolność i niepodległość Białorusi.

25 grudnia 1998 roku prezydent Białorusi, Łukaszenka oraz prezydent Rosji, Jelcyn bez porozumienia się ze społeczeństwem podpisali w Moskwie deklarację o zjednoczeniu Białorusi i Rosji w jedno państwo. Następnie zaplanowali bezprawne referendum w sprawie likwidacji niezależności Białorusi.

Propozycja Łukaszenki ma charakter awanturniczy oraz jest niezgodna z prawem.

Zgodnie z ustawą konstytucyjną o referendum (1991 rok) kwestie, dotyczące podstaw istnienia państwa białoruskiego jego suwerenności i terytorialności, nie mogą być rozstrzygane na podstawie referendum.

Oprócz tego żadne referendum nie może być przeprowadzone w warunkach dyktatu, braku dostępu opozycji do środków masowego przekazu, w sytuacji łamania praw człowieka, trzymania więźniów politycznych, w kraju, gdzie prawo zostało podyktowane przez dyktatora.

Z punktu widzenia motywacji politycznej pakt „Jelcyn–Łukaszenka" jest zmową dwóch zbankrutowanych polityków, dzięki której Jelcyn chce pokazać, że nadal ma wpływ na politykę Rosji, a Łukaszenka - brać udział w wyborach prezydenckich w Rosji i trafić na Kreml kosztem „sprzedaży" Białorusi. Traktujemy pakt „Jelcyn-Łukaszenka" jak zmowę przeciwko niepodległości Białorusi, jak na plan okupacji naszego kraju.

Bezwstydna deklaracja z 25 grudnia 1998 r. jest trzecią próbą aneksji Białorusi (pierwsze dwie miały miejsce w latach 1996 i 1997).

Na pierwszy rzut oka to może się wydawać dziwną polityką, ale jest ona obwarunkowaną wewnętrzną okupacją Białorusi siłami sowieckiego KGB, która zaczęła się w roku 1994 po wybraniu na prezydenta Białorusi agenta KGB, Aleksandra Łukaszenki.

Białoruski Front Narodowy, jako główna demokratyczna siła wyzwoleńcza w kraju, rozpoczął ruch i akcje protestu przeciwko próbom likwidacji niepodległości Białorusi. Przeciwdziałając awanturniczej polityce aneksji i dyktatorskich referendów próbujemy zjednoczyć wszystkie demokratyczne i opozycyjne siły białoruskiego społeczeństwa.

Upatrujemy wielkie niebezpieczeństwo dla całej Europy w pseudoambitnych działaniach Łukaszenki, który chce kandydować na prezydenta Rosji kosztem niepodległości Białorusi. Rosja stoi na progu dyktatury komunistyczno-faszystowskiej. Działalność Łukaszenki na rosyjskiej płaszczyźnie politycznej i jego zaangażowanie się w walkę polityczną o Kreml może się przyczynić do powstania „czerwono-brązowej" dyktatury w Rosji. Dla Białorusinów będzie to oznaczać utratę niepodległości i katastrofę narodową. Dla Europy - zachwianie się istniejącego stanu rzeczy, aktywizację sił komunistycznych, reanimację konfliktów geopolitycznych, szantażu atomowego i argumentów nuklearnych.

Spodziewamy się solidarności demokratycznej ze strony rządów, parlamentów i ugrupowań politycznych zachodnich krajów, wyraźnego poparcia naszej walki o wolność i niepodległość Białorusi, demokrację i prawa człowieka.

Kierownictwo Białoruskiego Frontu Narodowego „Adradżeńnie" („Odrodzenie") zwraca się do rządów, parlamentów i ugrupowań politycznych zachodnich krajów — Francji, Wielkiej Brytanii, Niemiec, Włoch, Hiszpanii, Portugalii, Belgii, Holandii, Austrii, Szwecji, Norwegii, Finlandii, Grecji, Irlandii, Danii, Polski, Czech, Węgier, Kanady i Stanów Zjednoczonych:

- o wystąpienie z oceną polityczną kolejnej inicjatywy „Łukaszenki-Jelcyna" o zjednoczeniu Białorusi z Rosją;
- o udzielenie poparcia dla całej białoruskiej opozycji walczącej o demokrację, niepodległość i wolność Białorusi;
- o udzielenie kredytów, pożyczek i wszelkiego rodzaju pomocy dla Rosji, tylko w wypadku zrzeczenia się przez Rosję wszelkich prób likwidacji suwerenności Białorusi i przyłączenia białoruskich terenów do Rosji;
- o wystąpienie z inicjatywą rozpatrzenia w Radzie Europy i Organizacji Narodów Zjednoczonych kwestii, dotyczącej niezależności Białorusi i łamania praw człowieka przez reżym Łukaszenki. Prosimy równocześnie o wysłuchanie przedstawicieli białoruskiej opozycji i całego demokratycznego ruchu wyzwoleńczego Białorusi.

***Zianon Paźniak***
***Przewodniczący Białoruskiego Frontu Narodowego „Adradżeńnie"***

*28 grudnia 1998 r., Warszawa - Mińsk*

# AU PARLEMENTS ET AUX GOUVERNEMENTS DES PAYS DEMOCRATIQUES DE L'EUROPE ET DES ETAS UNIS

## Appel de la direction du Front Populaire Biélorusse „Adradzennie"

Chers Mesdames et Messieurs. Nous nous adressons à vous avec l'espoir de trouver votre compréhension et votre soutien de notre lutte pour la démocratie, la liberté et l'indépendance de la Biélorussie.

Le 25 décembre 1998 le president de la Biélorussie A. Loukachenka et le président de la Russie B. Eltsin, sans prévenir préalablement l'opinion publique de leurs pays, ont signé à Moscou une déclaration sur l'union de la Biélorussie et de la Russie en un seul état. On prévoit un nouveau référendum illégal sur la liquidation de l'indépendance de la Biélorussie.

Du point de vue du droit, la proposition de Loukachenka est illégale, et son action est un coup de tête.

*D'après la loi constitutionnelle sur le référendum (1991), le droit biélorusse ne permet pas de présenter au référendum des questions qui concernent les bases de l'existence de l'etat biélorusse, de son souveraineté et de son territoire.*

Il faut dire en plus, qu'aucun référendum ne peut être se réaliser dans les conditions de la dictature, de l'absence réelle de la possibilité pour l'opposition de s'exprimer devant les mass media, dans les conditions quand il existe la violation des droits de l'homme et quand il existe des prisonniers politiques, dans un pays, où la législation est remplacée par la volonté du dictateur.

Du point de vue de la motivation politique, c'est le complot de deux hommes politiques banqueroutes, quand Eltsin veut témoigner qu'il est encore en état d'influer la politique en Russie, et quand Loukachenka veut prendre part aux élections présidentielles russes et arriver au Kremlin par le prix de la vente de la Biélorussie.

La déclaration effrontée du 25 décembre est la troisiéme tentative d'annexion de la Biélorussie (la premiere était en 1996, la deuxième — en 1997. Cette politique qui, au premier regard, paraîtrait étrange, est expliquée par l'occupation intérieure de la Biélorussie par des forces du KGB soviétique, qui avait été commencée en 1994, après l'élection au poste présidentiel biélorusse de l'agent du KGB Alexandre Loukachenka.

*Le Front Populaire Biélorusse*, autant que la force principale de libération dans le pays, a déjà entamé depuis le 25 décembre un mouvement et des actions de protestation contre les tentatives de liquider l'indépendance de la Biélorussie. Nous réunissons toutes les forces saines et démocratiques de la société biélorusse sous le drapeau de la résistance à la politique d'aventures des annexions et des référendums dictatoriaux.

Nous voyons un grand danger pour toute l'Europe dans les tentatives de Loukachenka de venir au pouvoir présidentiel en Russie, par le prix de la perte de l'indépendance biélorusse. La Russie est actuellement à la veille de la dictature brun-rouge. La sortie de Loukachenka sur le champs politique russe et son participation à la lutte politique pour le Kremlin peuvent rendre réelle la possibilité de la venue au pouvoir en Russie d'une dictature brun-rouge. Cela signifierait pour les Biélorusses la perte de l'indépendance et la catastrophe nationale. Cela signifierait pour l'Europe la destruction de l'ordre existant des choses, l'intensification des forces communistes, la réanimation des conflits géopolitiques, des problèmes territoriaux, du chantage atomique et des arguments nucléaires.


Фота Ул. Карміхіна

*Беларускі мітынг*

Nous comptons sur la solidarité démocratique de la part des gouvernements, des parlements et des organisations des pays occidentaux, sur le soutien réel de notre lutte pour la liberté et l'indépendance de la Biélorussie, pour la democratie et les droits de l'homme.

***La direction du Front Populaire Biélorusse „Adradzennie" demande les gouvernements, les parlements et les organisations des pays occidentaux, tels que la France, la Grande Bretagne, l'Allemagne, l'Italie, l'Espagne, le Portugal, la Belgique, les Pays Bas, l'Autriche, la Suède, la Norvège, la Finlande, la Grèce, l'Irlande, le Danemark, la Pologne, la Republique Tchèque, la Hongrie, le Canada et les Etats Unis d'Amérique***

*— d'exprimer son opinion politique envers l'initiative récente de Loukachenka-Eltsin sur le progrès de l'union de la Biélorussie avec la Russie;*

*— de soutenir tout le mouvement biélorusse d'opposition dans sa lutte pour la démocratie, l'indépendance et la liberté de Biélorussie;*

*— n'accorder pas de crédits, de prêts et de l'aide financière à la Russie qu'à la condition suivante: Moscou doit se refuser de toutes ses tentatives à liquider la souveraineté de la Biélorussie et à faire annexion de son territoire;*

*— initier l'examen des questions du danger pour l'indépendance de la Biélorussie et de la violation des droits de l'homme par le régime de Loukachenka au Conseil de l'Europe et à l'Organisation des Nations Unies. Prévoir la participation a cette audience des représentants de l'opposition biélorusse et de tout le mouvement démocratique de libération de la Biélorussie.*

***Zianon PAZNIAK,***
***Président du Front Populaire Biélorusse „Adradzennie"***
*Le 28 décembre 1998, Varsovie-Minsk*


Беларускія Ведамасьці

Беларускае выданьне

У супрацоўніцтве зь Беларускім Выдавецкім Таварыствам ў Амэрыцы
Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Вашчанка
Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127
тэл./факс: (+48 22) 628 76 73